ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association

P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 340
Год выд. XXXVI

Кастрычнік
1987

## «ГАЛОСНАСЬЦЬ» І БЕЛАРУСЫ

*(Зьмест дакладу др. Янкі Запрудніка на 22-м кангрэсе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., 6.IX.1987 г.)*

Жывём мы сёньня запраўды гістарычным часам амэрыканска-савецкага паразуменьня. Калі гэты працэс прывядзе да скарачэньня ракетна-ядзернае зброі, — да чаго, як выглядае, дойдзе — тады няўхільна паслабіцца й рэгіянальныя канфлікты навокала зямное кулі, бо ня будуць падагравацца дзьвюма ўзаемна варожымі звышдзяржавамі. Узмоцніцца тады й культурны амэрыканска-савецкі абмен, бо абодвы бакі будуць імкнуцца выкарыстаць мірнае суіснаваньне для ідэйнае канкурэнцыі. Хрушчоў некалі трапна сказаў: мірнае суіснаваньне — гэта ўзмацненьне змаганьня ідэялягічнага. Але ў змаганьні ідэяў, калі яно не вядзе да абстрэлу адзін аднаго ядзернымі бомбамі, няма нічога благога.

Савецкі Саюз пайшоў на скарачэньне ўзброеньняў не таму, што кіраўніцтва ў Крамлі адмовілася ад сваіх імпэрскіх і экспаньсіяніцкіх амбіцыяў, а таму галоўна, што савецкая эканоміка, спараліжаваная дагматызмам і скаваная бюракратызмам, ня вытрымала сусьветнае канкурэнцыі. Збожжа і тое даводзіцца дакупляваць за межамі, ня кажучы ўжо пра камп'ютэры. Савецкі Саюз ня можа адначасна ўзбройвацца, фінансаваць камуністычную экспаньсію ў сьвеце ды забясьпечваць сваё жыхарства элемэнтарнымі патрэбамі да штадзённага жыцьця. Гэта добра разумее Белы Дом Прэзыдэнта Рэйгана. Гэта зразумела й новае крамлёўскае кіраўніцтва на чале з Гарбачовам, зразумела і шукае цяпер шляхоў да больш разумнага разьмеркаваньня прыярытэтаў.

Прызначэньне гарбачоўскае публічнасьці, «галоснасьці» — служыць гэтай мэце разумнейшага разьмеркаваньня. Галоснасьць, свабаднейшае выказваньне думак пра мінуўшчыну, сучаснасьць і будучыню, павінна, паводля афіцыйнага меркаваньня ў Крамлі, змабілізаваць гэтак званы чалавечы фактар, інакш кажучы, падахвоціць грамадзяніна да падвышэньня прадукцыйнасьці працы, да эканамічнае ініцыятывы, да больш дбайнага гаспадараньня.

Але галоснасьць прывяла адначасна і да свайго роду легальнага іншадумства, прывяла да рэвізіянізму камуністычнай тэорыі й гістарыяграфіі. Тое, пра што гаварыў і пісаў іншадумец Міхась Кукабака (якога пасадзілі за гэта ў канцлягер), тое паўтараюць цяпер, і дэтальней ілюструюць, беларускія пісьменьнікі, мастакі, навукоўцы, сярод якіх ёсьць ціма́ла членаў кампартыі. Кукабака сказаў сваім часам пра савецкі сацыялізм, што гэта — «сыстэма прымусу і ўсеагульнага разбурэньня». Сёньня знаходзім пацьверджаньне гэтаму ў лісьце 28-х прадстаўнікоў грамадзтва савецкае Беларусі да Гарбачова. Беларускія патрыёты просяць генэральнага сакратара ЦК КПСС, каб ён памог ім ратаваць «беларускі народ ад духовага выміраньня», да якога прывяла палітыка гвалтоўнае русыфікацыі.

Іншадумец Кукабака ды камуніст і народны паэт рэспублікі Пімен Панчанка гавораць у існасьці пра тое самае: Беларусы як нацыя апынуліся над прорвай нацыянальна-культурнае сьмерці.

Галоснасьць дала нарэшце і нутрана-савецкаму і вонкаваму сьвету нагоду пабачыць пачварнасьць савецкае рэчаіснасьці, зазірнуць у ейныя зморчныя закуткі. Гэта дае й нам магчымасьць глыбей зразумець словы папулярнае цяпер на Беларусі песьні, у якой пяецца:

Былі крыніцы сінімі
І ад крыві чырвонымі,
А груганы на плынямі
Кружылі натамлёныя,
Маўчалі вербы ніцыя
І берагі вузорныя.
Чаму-ж цяпер, крыніцы вы,
Наўсьцяж такія чорныя?

Але «вербы ніцыя» не маўчаць больш. «Вербы» падаюць голас. Як сказаў адзін паэт з пэрыяду «чорных берагоў»:

Прыйшла пара сапраўднай праўды,
Якой з маленства даражу.
Язык мой, колькі-ж год маўчаў ты?
Цябе я ўрэшце разьвяжу.

Галоснасьць — гэта пара́ «разьвязаных языкоў», пара́ «сапраўднай праўды», мы сьветкамі фэнамэнальных зьменаў у БССР у галіне беларускага Публічнага Слова. Эканоміка, быт застаюцца тымчасам тыя самыя, цяжкія й невясёлыя. Чалавечы фактар, «апрацоўваны» на працягу дзесяцігодзьдзяў хлусьнёю й гвалтам, ня гэтак лёгка мабілізаваць да гаспадарскае дзейнасьці. Але Слова (пра якое кажуць, што яно было на самым пачатку рэчаў) ажыло, загаварыла. І наш найпершы абавязак пачуць яго, прыслухацца да яго, удумаецца, чаго нашыя суродзічы на Бацькаўшчыне чакаюць ад нас, сваіх суродзічаў на Захадзе.

Адбылася дзіўная рэч! Абаронцы нацыянальнае культуры на Бацькаўшчыне й беларуская палітычная эміграцыя гавораць раптам у існасьці пра тое самае: той самы пагляд на мінуўшчыну, на сваю гістарычную спадчыну, тыя самыя жаданьні што да будучыні. Адбываецца, сказаць-бы, ідэйная канвэргенцыя, ідэйнае зьліцьцё беларускага народу і беларускае эміграцыі. З тэй, праўда, акалічнасьцяй, што гарбачоўская галоснасьць не дазваляе (і не дазволіць) Беларусам у Савецкім Саюзе аналізаваць палажэньне палітычнымі катэгорыямі, шукаць палітычных формулаў для, кажучы словамі зь ліста 28-х, «уратаваньня белару-

*(Заканчэньне на 2-й б.)*

## ДАСЯГНЕНЬНІ Й «ДАСЯГНЕНЬНІ»

### Да 70-х угодкаў Кастрычніцкае рэвалюцыі

Пры сустрэчах з афіцыйнымі прадстаўнікамі БССР часта можна пачуць пытаньне: «Чаму вы, беларускія палітычныя эмігранты, ня прызнаеце, што ў нас ёсьць дасягненьні. Але, ёсьць, прызнаём. Менск быў вайною зруйнаваны, цяпер — адбудаваны. Палесьсе было забалочанае, цяпер — асушанае. У рэспубліцы працуюць 30 вышэйшых навучальных установаў. На кніжных паліцах стаяць: тамы энцыкляпэдычных выданьняў, народнага фальклёру, гістарычнага, этымалягічнага й тлумачальнага слоўнікаў, мастацкае літаратуры. Пералік можам весьці й далей.

Праўда, пры гэтым можна было-б паставіць пытаньне: ці ўсе гэтыя дасягненьні трэба запісваць выключна на рахунак рэжыму, савецкае ўлады? Бо нельга-ж дапушчаць, што калі-б ня было савецкае ўлады, дык ня было-б і адбудаванага Менску, і ВНУ, і беларускамоўных кніжак. Але пакіньма гэткую спрэчку збоку. Паглядзем на накаторыя іншыя «дасягненьні» — гэтыя ўжо выразна належаць савецкай уладзе. Вось яны: «Ад сярэдзіны 1950-х гадоў інтэнсыўна ліквідаваліся беларускія школы ў гарадох, шэраг беларускіх пэрыядычных выданьняў быў пераведзены ў расейскую мову, родная мова была выціснутая блізу з усіх сфэраў жыцьця грамадзтва. За апошнія два дзесяцігодзьдзі гэты працэс паглыбіўся. Сотні селавых школаў ужо афіцыйна пераведзеныя ў расейскую мову навучаньня. Катастрафічна зьмяншаецца лік вучняў, што навучаюцца ў беларускіх школах». *(Зь ліста 28-х да М. Гарбачова)*

— «Ніводнае з пэдагагічных вучылішчаў (БССР), што рыхтуюць кадры для пачатковай школы, яшчэ не перайшло на беларускую мову. (. . .) Нават у беларускамоўных клясах выкладаньне фізкультуры й выяўленчага мастацтва вядзецца парускy». *(«Настаўніцкая газета», 19.IX.1987)*

— «Пайшла дурная завядзёнка ў нашым кіно: фільмы, як правіла, усе па-руску, але для так званага каларыту, для апраўданьня беларускай прапіскі якому-небудзь другараднаму пэрсанажу — дзеду, бабцы — даецца дзяятак-два жаргонных слоўцаў-рэплікаў. І акторы мусяць іх вызубрыць і потым у фільме вымаўляюць, што хоць вушы затыкай ад сораму». *(«Полымя», 1987, № 3, б. 208)*.

— «Паводля праграмаў, якія выдаваліся да 1982 году, найбольш папулярнай тэмай для самастойнай работы па кампазыцыі ў кожнай клясе было ілюстраваньне рускіх казак або твораў рускай клясыкі. . . . З курсу выяўленчага мастацтва агульнаадукацыйнай школы (БССР) належнага ўяўленьня пра беларускае мастацтва атрымаць нельга». *(«Мастацтва Беларусі», 1987, № 2, б. 16)*.

— «У Бабруйскім вучылішчы дасканала вывучаюць мастацтва ўсіх часоў і народаў, акрамя... беларускага, на якое ў праграме адведзена ўсяго 10 гадзін». *(«Мастацтва Беларусі», 1987,*

*(Заканчэньне на 3-й б.)*

*СССР 1987: ПАБУДАВАЛАІ...*




*«Вожык» № 8, красавік 1987 г.*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# «ГАЛОСНАСЬЦЬ» І БЕЛАРУСЫ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

скага народу ад духовага выміраньня».

Але ў нас гэткая формула ёсьць! Яе пакінулі свайму народу ўдзельнікі першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году й тварцы Акту 25 Сакавіка: дзяржаўная незалежнасьць! Яна патрэбная Беларусам, каб Масква не дыктавала Менску, колькі гадзінаў у школах Беларусі мае быць адведзена на навучаньне дзяцей роднае мовы ды якім мэтадам карыстацца пры выкладаньні мовы. Бо пакуль гэткі дыктат будзе йсьці ад маскоўскіх чыноўнікаў, датуль будзе рабіцца тое, пра штое пісаў роўна 125 гадоў таму Кастусь Каліноўскі ў чацьвертым нумары свае падпольнае газэты «Мужыцкая Праўда»: «У нас, Дзяцюкі адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а, то для таго, каб цябе зусім пераробілі на маскаля».

Але розьніца паміж тым, што на працягу 40 гадоў гаварыла беларуская палітычная эміграцыя ды што гавораць цяпер абаронцы беларускае мовы на Беларусі, паступова зьмяншаецца. Пра палітычнае разьвязаньне праблемы нацыянальнае культуры пачынаюць думаць і Беларусы ў БССР. У ліпелі 134-х да Гарбачова аўтары, палемізуючы зь першым сакратаром ЦК КПБ Яфрэмам Сакаловам, які «ня бачыць» ніякага заціску беларускае мовы ў рэспубліцы, пішуць: «Ня трэба забывацца, што ўсё гэта адбываецца ў рэспубліцы, якая мае **дзяржаўны сувэрэнітэт** і зьяўляецца аднэй з членаў-заснавальнікаў ААН». Шкада, што яны не дадалі тут яшчэ: «і якая мае канстытуцыйнае права выхаду з Савецкага Саюзу». Але ў падтэксьце разгортваных цяпер у ходзе галоснасьці дэбатаў аргумэнт гэты — патрэба напоўніць форму «дзяржаўнага сувэрэнітэту» нацыянальным зьместам — недалёкі ад паверхні.

Што-ж можам мы зрабіць пры сучасным стане рэчаў на Беларусі? Якія нашыя заданьні й патрыятычны абавязак? Чаго чакаюць беларуская сама-абаронцы ад нас, сваіх суродзічаў у Вольным Сьвеце?

Дазвольце запрапанаваць тут адказ зь пяцёх пунктаў:

1. Мы павінны выдаваць (пры патрэбе зь перакладамі ў замежныя мовы) сьветчаньні, што трапляюць да нас зь Беларусі, пра абарону Беларусамі сваіх правоў на эканамічную й нацыянальна-культурную свабоду.

2. Мы павінны й надалей трымаць ды пашыраць лучнасьць з палітычным сьветам, у якім мы жывём, інфармаваць кангрэсмэнаў, сэнатараў, урад краіны, прадстаўнікоў мясцовых уладаў аб тым, што дзецца цяпер у БССР.

3. Вельмі важна найбольш цікавае з гэтага падаваць у друк, у мясцовыя публікацыі ды ў гэткія газэты, як «Нью-Ёрк Таймс». Калі якая газэта й ня зьмесьціць нашага матар'ялу, дык усё-ж нехта яго прачытае, прыме да ведама ды недзе выкарыстае.

4. Паколькі газэта «Беларус» пасылаецца таксама і ў БССР, нязвычайна важна падаваць у «Беларусе» весткі зь беларускага жыцьця на Захадзе (хроніку грамадзкіх падзеяў, пра ўдзел у міжнародных канфэрэнцыях, міжэтнічных выстаўках, фэстывалях, пра асабістыя дасягненьні і г.д.), каб чытач на Бацькаўшчыне пабачыў з гэтага, што ў Вольным Сьвеце ёсьць беларускае арганізаванае жыцьцё, ёсьць нацыянальна сьведамыя й палітычна дзейныя суродзічы, якія рэпрэзэнтуюць і бароняць Беларускую Справу.

5. Пасылаць «Беларуса» (або ксэракопіі ягоных матар'ялаў) суродзічам на Бацькаўшчыне. Рабіць гэта можна ня толькі паштовай дарогай, але й пры сустрэчах з наведнікамі-сваякамі, знаёмымі ці, як часамі бывае, неспадзяванымі турыстамі.

Бязумоўна, пры ўсім гэтым трэба падтрымваць і свае арганізацыі і, што вельмі важна, даваць грашовую дапамогу газэце «Беларус». Памятайма, што газэта нашая можа рэгулярна выходзіць толькі дзякуючы падтрыманьню яе грашыма з боку грамадзтва, дзякуючы ахвярнасьці кожнага з Вас упаасобку.

Ніколі не забываймася, што мы — голас у шырокім сьвеце Беларусаў на Бацькаўшчыне, праз наш друкаваны орган пра нас могуць даведацца і тыя, хто вядзе нялёгкую самаабарону на Беларусі. Вось-жа няхай і вонкавы сьвет і суродзічы на Бацькаўшчыне ведаюць, што Жыве Беларусь, жыве й змагаецца за сваю нацыянальную дзяржаўнасьць, за сваю Свабоду.

### «ПРАВДА» ПРА СЛУШНАСЬЦЬ ПРАТЭСТАЎ

Прафэсар Эдуард Баграмаў, савецкі тэарэтык нацыянальнага пытаньня, пішучы ў газэце «Правда» (14.VIII.87; арт. «Нацыянальная праблема й грамадаведа») прызнае:

«Няўвага да мовы народу, сярод якога жывеш, выклікае зусім апраўданы пратэст. Тыя, хто ўважае, што дабраахвотнасьць у выбары мовы навучаньня здымае зь іхных дзяцей абавязак выяўляць пашану да мясцовае мовы, зразумела, памыляюцца».

Цікава, ці менскія газэты «Советская Белоруссия», «Сельская газета», «Знамя юности» ды іншыя пачнуць калі-небудзь у сваіх ацэнах моўнага стану на Беларусі кіравацца зусім слушным выказваньнем праф. Баграмава ў газэце «Правда».

### «Все равно с мякким знаком»

Мележ з усьмешкай расказваў мне незадоўга да сьмерці, як ён здаваў бандэроль і маладая, незнаёмая паштарка зрабіла яму заўвагу:

— Мозырь надо писать с мякким знаком.

— Гэта ў мяне пабеларуску.

— Ну и что же? все равно с мякким знаком.

I паставіла знак сама.

*(Янка Брыль. Сёньня і памяць. Менск, 1985, б.238-9).*

# ІДЭЙНАЯ СУВЯЗЬ З ЭМІГРАЦЫЯЙ

Газэта «Зьвязда» (20.IX.87) зьмясьціла даўжэйшы артыкул В. Шчэрбіна, супрацоўніка Інстытуту мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, з войстрай крытыкай дзейнасьці й пaглядаў Язэпа Лёсіка, беларускага культурнага й палітычнага дзеяча часоў рэвалюцыі й станаўленьня савецкай улады, публіцыста (рэдагаваў газ. «Вольная Беларусь» у 1917-18 г.г.), мовазнаўцы й пэдагога. Навошта спатрэбіўся «Зьвязьдзе» гэты пагромiцкі артыкул? — Вось як гэта тлумачыць сам Шчэрбін:

«Трэба адзначыць, што паміж думкамі, якія выказваліся беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі ў 20-я гады, і сучаснымі прапагандысцкімі заявамі ідэёлягаў імпэрыялізму й дзеячоў беларускай буржуазна-нацыяналістычнай эміграцыі існуе ідэйная сувязь». Далей Шчэрбін піша пра «шматлікія захады буржуазнай прапаганды выдаць збуцьвелыя ад часу нацыяналістычныя ідэі й паняцьці за нейкую навейшую плынь у культурна-моўным жыцьці нашай рэспублікі, а заадно аднавіць фальшывыя 'навуковыя' аўтарытэты Я. Лёсіка і да яго падобных, прадстаўляючы іх 'пачынальнікамі' гэтай 'навейшай' плыні». Інакш кажучы, на Беларусі сёньня, пры паслабленай цэнзуры, расьце, асабліва сярод моладзі, зацікаўленьне да панішчаных бальшавікамі дзеячоў беларускай навукі й культуры, іхных пaглядаў. Прызнаць гэта аднак савецкая прапаганда ня хоча, яна намагаецца адстрашыць маладое пакаленьне ад перайманьня пaглядаў беларускіх дзеячоў 20-х гадоў тым, што зьвязвае іх зь «ідэёлягамі імпэрыялізму й беларускай буржуазна-нацыяналістычнай эміграцыяй».

Шчэрбін ня піша ў сваім артыкуле, хто гэта сёньня ў БССР прадстаўляе Лёсіка і да яго падобных «пачынальнікамі» «навейшай плыні ў культурна-моўным жыцьці нашай рэспублікі». Ці ня мае Шчэрбін на ўвазе, разам зь іншымі, Янку Саламевіча, лаўрэата дзяржаўнай прэміі БССР, які зьмясьціў сёлета ў газэце «Літаратура і Мастацтва» артыкул пад заг. «Пачынальнікі» да 80-годзьдзя выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Суполка была заснаваная 5(18) травеня 1906 году выкладчыкам Пецярбургскага ўнівэрсытэту Браніславам Эпімах-Шыпілам. За няпоўныя 8 гадоў суполка выдала 38 беларускіх кнігаў літаратурнага, грамадзка-палітычнага, бытавога, навукова-папулярнага зьместу агульным тыражом больш за сто тысячаў экзэмпляраў. Язэп Лёсік, які ў гадох дзейнасьці суполкі «Заглянае сонца» адбываў ссылку ў Сібіры, быў прадаўжальнікам гэтае дзейнасьці, калі вярнуўся на Беларусь у 1917 годзе. Гэта Лёсік-пэдагог, выкладчык Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, пакінуў па сабе крылатае выслоўе: «Для нас беларуская мова становіць усё: нашу палітыку, нашу эканоміку, наш грамадзкі лад жыцьця».

У сваім артыкуле «Пачынальнікі» Янка Саламевіч пісаў пра выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца»: «Суполка сьмела, самаахвярна, з найвялікшай верай у лепшую будучыню выйшла ў шлях з 'сьветлага знаньня сяўбою' (Я. Купала) на карысьць свайго народу, асьвятліла шмат якія 'сьцежкі цямноты', якіх было надзвычай многа на той час на дарозе Беларусаў да самасьцерджаньня і прагрэсу, таму сёньня нашчадкі, якім сацыялізм даў усе магчымасьці заняць 'свой пачэсны пасад між народамі', успамінаюць іх высакародную патрыятычную працу з глыбокай пашанаю і ўдзячнасьцю».

Але В. Шчэрбін ня хоча залічаць сябе да ліку гэткіх удзячных нашчадкаў.

**А. Будзіч**

### ДЗЕЙНЫЯ НЯБОЖЧЫКІ

У артыкуле В. Сіманава пад загалоўкам «Жывы й брыкаецца» (гэта — пра фашызм у Амэрыцы) газэта «Советская Белоруссия» (30.IX.87) піша: «Франц Кушаль — цяпер высакапастаўлены чыноўнік Пэнтагону, С. Станкевіч — адзін зь кіраўнікоў радыястанцыі 'Свабода', Э. Ясюка можна застаць у адным з кабінэтаў Фэдэральнага Бюро Расьсьледаваньняў».

Як бачым, гарбачоўская «перабудова» ня шмат памагала савецкім журналістам разьбірацца ў фактах.

Тры названыя даўныя нябожчыкі і за жыцьця ніколі ня былі на пасадах, на якіх іх «улякавала» ды яшчэ ўсё трымае «Советская Белоруссия». Відаць, што газэта зялёнага паняцьця ня мае, пра што яна піша.

### «ПЕРАБУДОВА»: «ЯК У ПУШЧЫ»

У брытанскім часапісе The World Today (№ 10, кастрычнік 1987), у артыкуле пра абарону нерасейскімі народамі СССР сваіх нацыянальных культураў, аўтар артыкулу Вера Рыч згадвае калектыўныя лісты Беларусаў да Гарбачова ды зазначае, што ад 1958 году наймацнейшы русыфікацыйны ціск быў на Беларусь і Украіну. Артыкул свой Вера Рыч канчае беларускай прымаўкай пра гарбачоўскую «перабудову»: «Перабудова — як пушча: шмат шуму нагары, але мёртвая цішыня ўнізе».

**ВІТАЙЦЕ З КАЛЯДАМІ Й НОВЫМ ГОДАМ ПРАЗ ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»!**

### ПАЛІТЫЧНАЕ ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ ПАКЛЁПАЎ

Паводля крыніцы, блізкое да беларускіх колаў у БССР, нядаўная атака ў друку савецкае Беларусі супраць сыноў Антона Луцкевіча тлумачыцца намаганьнямі партыйных ідэёлягаў здыскрэдытаваць перад сучаснай моладзяй нашаніўцаў і нашаніўства. Для патрыятычнае беларускае моладзі ў Менску, Горадні, Воршы, Віцебску ды ў іншых гарадох Беларусі сыны Антона Луцкевіча, Лявон і Юрка, сталіся як-бы прадаўжальнікамі справы іхнага бацькі Антона й дзядзькі Івана, якія сваё жыцьцё прысьвяцілі нацыянальнаму адраджэньню. Антон Луцкевіч сёньня для маладых — сымбаль запраўднае беларускасьці, чысьціні й нязломнае вернасьці ідэі адраджэньня.

Каб сыны ягоныя ня сталіся каталізатарамі захапленьня сярод беларускай моладзі нацыянальнай ідэяй, вернападданыя партыйныя вартаўнікі тыпу А. Бажка й М. Сташкевіча намагаюцца цяпер зьняславіць Луцкевічаў сваёй паклёпніцкай пісанінай.

### ІНІЦЫЯТАРЫ ДЭРУСЫФІКАЦЫІ

На Беларусі, як грыбы па дажды, пачалі засноўвацца маладзежныя клюбы. Гэтак, у Менску паўсталі «Талака» й «Спадчына», у Горадні «Паходня», у Віцебску «Ўзвышша», у Гомелі «Талака» ды іншыя. Ува ўмовах гарбачоўскае галоснасьці гэтыя нацыянальныя гурткі моладзі ўзяліся праводзіць шырокім плянам дэрусыфікацыю й ажыўляць усе галіны нацыянальна-культурнага жыцьця.

## ГАЛАДОЎКА М. КУКАБАКІ

На 18-м годзе свайго зьняволеньня беларускі вязень сумленьня ў Савецкім Саюзе Міхал Кукабака адзначыць яшчэ раз галадоўкаю Дзень Палітычнага Вязьня ў СССР 30-га кастрычніка сёлета. Тое самае зробіць Кукабака і 10 сьнежня на ўгодкі прыняцьця Аб'еднанымі Нацыямі Ўсеагульнае Дэклярацыі Правоў Чалавека.

Зь беларускім іншадумцам будуць сёлета салідарызавацца ягоныя абаронцы на Захадзе правядзеньнем дэманстрацыяў у Лёндане, Даніі, Аўстрыі ды ў Чыкага. Ініцыятары дэманстрацыяў — аддзелы Міжнароднай Амністыі, а ў Чыкага — Беларускі Каардынацыйны Камітэт.

Беларуска-Амэрыканскі Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне выслалі тэлеграмы ў Міністэрства юстыцыі СССР з просьбаю вызваліць Міхася Кукабаку й даць яму магчымасьць выехаць у якую-небудзь некамуністычную краіну, як аб гэтым просіць сам Кукабака. З падобнымі просьбамі было выслана зь ініцыятывы Міжнароднае Амністыі ў Лёндане на працягу кастрычніка сёлета колькі дзесяткоў лістоў да савецкага міністра юстыцыі Краўцова. Рэдакцыя «Беларуса» просіць усіх сваіх чытачоў таксама пісаць лісты да міністра Краўцова з просьбай вызваліць М. Кукабаку. Пісаць трэба на адрас:

RSFSR<br>
109830 Moskva<br>
ul. Obukha, 4<br>
Ministerstvo yustitsii SSSR<br>
Ministru Kravtsovu B.V.<br>
Soviet Union

М. Кукабака быў нядаўна пераведзены зь лягеру ў Пермскай вобласьці ў адзін з мардоўскіх лягероў (ЖХ 385/3-5).

## «ДАСЯГНЕНЬНІ»

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

*№ 7, б. 34).*

— «Калі-б у абласной праграмы (Гомельскай студыі тэлебачаньня) зьявіўся свой заўзяты глядач, ён-бы хутка стаў спэцыялістам па Прыамурскім краі або дымкаўскіх цацках, але так і застаўся-б невукам у гісторыі й культуры Гомельшчыны, Беларусі». *(«Зьвязда, 13.III.1987).*

— «Удзельная вага мастацкае літаратуры (у друкаваных аркушах-адбітках), якую выпушчаюць рэспубліканскія выдавецтвы ў расейскай мове, узрасла з 89,9% у 1981 г. да 95,3% (!) у 1984 годзе. Практычна няма ў Беларусі і кінэматаграфіі ў роднай мове. З паўтара дзесяткоў тэатраў у рэспубліцы ўсяго тры беларускія». *(Зь ліста 28-х да М. Гарбачова).*

— «Асобаў, якія карыстаюцца роднай мовай, цірэдчас аўтаматычна залічаюць у 'нацыяналісты'». *(Зь ліста 28-х да М. Гарбачова).*

— «За паваенныя гады ў Менску ня было пабудавана ніводнага новага тэатральнага будынку, мы ўсё нешта прыстасоўвалі, падсялялі, часова пасялялі, у выніку тэатры ня мелі ўмоваў для творчага разгарненьня». *(М. Танк, народны паэт Беларусі, «Літаратура і Мастацтва», 22.V.1987).*

— «Сёньня ўсе мы, відаць, яшчэ не гатовы даць грунтоўны аналіз прычынаў нэгатыўных зьяваў... Беларуская крытыка й публіцыстыка адстаюць ад усесаюзнага друку ў сэнсе пераходу ад дзяжурна-казённага шматслоўя да шчыра зацікаўленага абмеркаваньня супярэчлівых праблемаў сучаснага культурна-мастацкага разьвіцьця». *(«Зьвязда», 23.VII.1987).*

— *«Авоська.* Чалавек з авоськай адразу трапляе ў разрад здабытчыкаў. Нясу з рамонту электрабрытву, і па вуліцы жанчыны, заклапочаныя, забеганыя й запараныя, спынялі мяне: «Вы не з прадуктовага?» «Каўбасы не заўважылі?» А цераз квартал зноў: «Вы з унівэрсаму?»

«Авоську, па сучасным звычаі, я заўсёды маю пры сабе — на ўсякі выпадак, але рэдка карыстаюся ёю, а вось дастаў зь кішэні і як па апазнавальным знаку адразу-ж папаў у лік энтузіястаў-шукальнікаў — дзе што даюць. Пасьля такога нельга не паспачуваць нашым жанчынам, якія гэтак штодня, бегаючы з магазыну ў магазын, выпрацавалі ўжо дакладныя адзнакі і арэнтыры, сярод якіх авоська, і, калі не парожняя, значыць, кіруйся на яе — вось і табе пашанцуе». *(Васіль Вітка. «Полымя», 1987, № 3).*

## ЯРЛЫК НА МАРКУ ШАГАЛА

У Менску нядаўна пачаў выходзіць новы часапіс «Политический собеседник» (гэтак адказаў ЦК КПБ на даманьні Беларусаў большае ўвагі беларускаму друкаванаму слову). У першым-жа нумары «Собеседника» Ул. Бягун (які неклі папісваў у «Голас Радзімы», атакуючы беларускіх «буржуазных нацыяналістаў») напісаў пра Марку Шагала. Бягун адкідае Шагалава мастацтва як рэакцыйнае, а самога Шагала абвінавачвае ў «сыянізьме».

Васьмёх беларускіх аўтараў у калектыўным артыкуле ў газэце «Советская культура» (3.X.87), бароначы Алеся Адамовіча, на якога Бягун таксама навалі́ўся як на пашыральніка «буржуазнага пацыфізму», бароняць і Шагала перад Бягуном-дагматыкам. Яны пішуць: «Разумеецца, Бягун мае права на сваю думку і пра Шагала. Магчыма, яму вельмі падабаецца каляровая фатаграфія, і яму агідны 'дзівацкі' Шагал, а агідны дзеля прычыны, якая ясная зь ягонага артыкулу: аўтар артыкулу ня ведае, што гэта — мэтафара ў малярстве, не разумее ды ня прыймае паэтычнае ўмоўнасьці, спалучэньня казкі з рэальным сьветам. Але калі Бягун усяго гэтага не разумее, дык як-жа ён бярэцца меркаваць пра аднаго з самых складаных жывапісцаў нашага стагодзьдзя? Незразумела таксама, чаму Бягун бачыць у Марку Шагалу сыяніста? Ці не таму, што ўтаесамляе два зусім розныя паняцьці — нацыянальнае й палітычнае? Калі мастак нарадзіўся ў гэбрэйскай сям'і, дык, значыцца, ён сыяніст? Бягуноў артыкул прыводзіць якраз да гэткае высновы, бо іншых довадаў шагалаўскага 'сыянізму' аўтар не падае, хіба што той факт, што мастак размалёўваў сярод іншага і сынагогу. Зрэшты, падобнае ўтаесамляньне — улюбёная тэма шматлічных пісаньняў У. Бягуна».

## *ПАПРАЎКА ПРА М. ШАГАЛА*

Дзякуючы захадам сп-ні Веры Рамук, газэта «Чыкага Сан-Таймс» (10.IX.87) зьмясьціла папраўку да свайго артыкулу пра Марку Шагала, зазначыўшы, што мастак нарадзіўся не ў Расеі, а на Беларусі. Пра Беларусь, як месца нараджэньня Шагала, сказана ў праграме адзначэньня 100-годзьдзя ад нараджэньня мастака, выдадзенай калькімі ўстановамі гораду Чыкага ў ліпені сёлета.

# НЕБА Й ПОЛЫМЯ

## (Аб творчасьці Маркі Шагала)

*(Заканчэньне з папярэдняга нумару)*

Адначасна з выстаўкай у Вашынгтоне ў Нью-Ёрку адчынілася ў Гэбрэйскім інстытуце абразоў Маркі Шагала на біблейскія тэмы, а гэткіх працаў у мастака мноства. Здаецца, што Шагал сыстэматычна падарожнічае не ў прасторы, а ў часе, затрымваючыся на эпохах псальмапесьняра Давіда й цара Саламона, чыя сьветлая радасьць зьменьваецца апакаліптычнай трагедыйнасьцяй старазаконнага Ераміі ды новазаконнага Іяана.

На пачатку рэвалюцыі Марка Шагал, у скураной куртцы, з чырвонай стужаткай, стаўся ўпаўнаважаным камісарам да справаў культуры пры Віцебскім губана (Губэрнскі Аддзел Народнай Асьветы), а крыху пазьней быў прызначаны на дырэктара Віцебскага мастацкага вучылішча. Адтуль яго звольнілі, замяніўшы пачынальнікам супрэматызму й тэхнічнай эстэтыкі Казімерам Малевічам. Абодвы яны адзін аднаго цярпець не маглі. Для Шагала Малевіч — «маляр-шарлатан», для Малевіча Шагал — «дзьмутая фігура, благі рысавальнік і нікудышны пэдагог». Аднак, калі-б варажнечы паміж абодвума вялікімі мастакамі ня было зусім, Шагала ўсяроўна звольнілі-б з камісарскае пасады ды адставілі-б ад кіраўніцтва Віцебскай мастацкай школай. У Шагала быў войстры канфлікт ня гэтулькі з Малевічам асабіста, колькі зь Віцебскім губана, губкомам і губвыканкомам. Усе гэтыя інстанцыі паўсталі на Шагала за тое, што ён, як апалягет патрыярхальнага гэбрэйства, няздольны ўзгадоўваць маладых мастакоў у атэістычным духу. Пагатоў, што бацька й дзед ягоны, асабліва дзед, былі непапраўнымі майманідаўцамі, а сам Шагал гэтак і ня здолеў перамагчы майманідаўца ў самым сабе.

Што гэта — майманідаўшчына, за якую Гэбрэі-камуністы цкавалі й аплявушылі рэлігійных Гэбрэяў гадамі ваеннага камунізму й НЭПу? Майманід — вялікі вучоны старавечнасьці. Гэбрэй сваім паходжаньнем, ён, застаючыся на пазыцыях юдаізму, ганьбаваў гэбрэйскую рэлігію за ейны ізаляцыянізм, за нутранацыянальную адасобненасьць ды манапалістычнасьць. Той-жа агрэсыўны ізаляцыянізм быў, паводля Майманіда, і духовай заганай магамэтанства. Затое Майманід прыняў у сваё сэрца запавет Хрыста: «Няма ні Эліна, ні Юдэя», дадаўшы да гэтага: «няма раба Алаха».

Майманід быў за мірнае суіснаваньне трох варожых адна да аднае рэлігіяў: гэбрэйскае, магамэтанскае й хрысьціянскае. Трыццатымі гадамі ў майманідаўшчыне абвінавачвалі праваслаўнага Мітрапаліта Арсенія, які служыў і памёр у Ташкеньце. Прыхільнікам Майманіда быў і трагічнае долі прэзыдэнт Эгіпту Анвар Садат, які лятуцеў аб пабудаваньні, калі не пад адным дахам, дык на адным узгорку, пасуседзку, адна да аднае мэчэці, сынагогі й хрысьціянскае сьвятыні з двума цьвінтарамі.

І зусім нядаўна мараканскі кароль Гасан Другі (а ня Ізраіль) прыдзяліў вельмі вялікія сродкі на ўвекапомненьне памяці Майманіда.

Чаму-ж на дзеда, на бацьку дый на самога Марку Шагала начаплялі біркі майманідаўцаў? Мэчэцяў у Віцебску ня было, але там на адным канцы вуліцы можна пабачыць сынагогу, на другім — касьцёл, а пасярэдзіне — праваслаўную сьвятыню. І Гэбрэі і негэбрэі цэняць малярства Маркі Шагала за ягоны інтуітыўны экумэнізм, за прыязнае стаўленьне да ўсіх трох цэркваў: юдэйскай, праваслаўнай і каталіцкай.

Сьведамыя ці інтуіцыйныя майманідаўцы — стыхійныя антытаталітарысты; яны ўсюды супраць тэрору й гвалту. Гэткі й пачцівы Гэбрэй Гедалі, выведзены ў «конарміі» зьнішчанага ў сталінскіх засьценках Ісака Бабеля.

— А інтэрнацыянал, панс таварышу, — пытаецца Гедалі ў аднаго будзёнаўца, — вы ня ведаеце, з чым яго ядуць?

— Яго ядуць з порахам і прыпраўляюць найлепшай крывёю...

Пачуўшы гэта, Гедалі, як піша Бабель, пабег у сынагогу маліцца.

Вялікі вучоны Айнштайн, не выракаўшыся свайго гэбрэйства і навет ганарыўшыся ім, усё-ж быў супраць таго, каб зь яго рабілі «кумірствуючага Гэбрэя». Ён, Айнштайн, вялікі дзеля таго, што ён — вучоны. Нельга рабіць «кумірствуючага Гэбрэя» і з Маркі Шагала. Ён, Шагал, дзеля таго й вялікі, што ён — выдатнейшы чарадзей колеру малярства XX стагодзьдзя.

Пра эстэтыку Шагала кажуць, што ён, пачаўшы як эга-футурыст, давёў да гранічнае ўдасканальненасьці экспэрымэнты фавістаў і прамяністаў. Слава табе, што дараваў нам колер!

Калі гэтыя нататкі былі ўжо гатовыя, сталася ведама, што маскоўскую выстаўку абразоў Шагала ня хочуць пераносіць у Віцебск, і гэта, пэўна-ж, не выпадкова. Сам Шагал, пабыўшы ў Ленінградзе й Маскве, баяўся наведаць родны яму Віцебск, баяўся прайсьціся па руінах, як па магільніку. Мастак баяўся, што не пазнае гораду свайго маленства й юнацтва.

А калі гадоў паўтара таму выстаўка Шагала адбывалася ў Філядэльфіі, раўнуючы нядаўныя савецкія грамадзяне, што перабраліся на сталае жыцьцё ў Амэрыку, наведваючы выстаўку, заспрачаліся, ці не ідэалізуе Шагал дарэвалюцыйны Віцебск. Старыя нязьменна адказвалі маладым: «Вы-ж запраўднага ягонага жыцьця ня ведалі».

**Вячаслаў Завалішын**

## ПРА ШАГАЛА «І СЛУХАЦЬ НЯ ХОЧУЦЬ»

Парыская газэта «Ле Монд (I.X.87) піша пра Марку Шагала:

«Адчыненьне Шагалавае выстаўкі ў Маскве было вітанае савецкім друкам, але ня ўсе людзі глядзяць прыхільным вокам на шагалаўскія абразы. Асабліва ў ягоным родным горадзе. (...)

«Справядлівасьць у дачыненьні да мастака толькі частковая, калі даваць веры аднэй паважанай савецкай асобе зь Менску (Беларусь), сустрэтай на выстаўцы перад фатаграфіямі Віцебску. Паводля гэнага чалавека, гэта ня Пушкінскі музэй, які павінен быў-бы адзначаць стагодзьдзе Маркі Шагала, а Віцебск, Шагалаў родны горад. Аднак, як ён сказаў, 'ні ў Віцебску ні навет у Менску ня хочуць і слухаць пра Шагала'».

НАЙТРЫВАЛЕЙШАЯ ЗБРОЯ САМААБАРОНЫ — ДРУКАВАНАЕ СЛОВА. ПАДТРЫМВАЙЦЕ ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»!

## ЯКОЙ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ БЫЛА ГЭРАІНЯ




«Рэха 1941 году ў Менску: ці была гэраіня Гэбрэйкай?» — пад гэткім загалоўкам газэта «Нью-Ёрк Таймс» (15.IX.87) зьмясьціла артыкул і дзьве фатаграфіі, адну зь якіх мы падаём тут. Паказаныя на здымку трое партызанаў былі павешаныя ў Менску Немцамі 26 кастрычніка 1941 году. Двое зь іх ведамыя: Кірыла Трус і Валодзя Шэрбацэвіч, Беларусы. А дзяўчына хто?

Некаторыя дасьледнікі ў СССР, у тым ліку й ведамы беларускі скульптар Заір Азгур, даводзяць, што гэта — Азгурава пляменьніца, 17-гадовая Маша Брускіна, якая на пачатку акупацыі Менску працавала там у шпіталі. Але менскія бюракраты афіцыйна не прызнаюць гэтага і разам з тым не даюць доступу да архіваў, каб пытаньне высьвятліць да канца.

Як піша «НЁТ», прадстаўнік Інстытуту гісторыі пры ЦК КПБ Мікалай Сташкевіч сказаў, што група супрацоўнікаў інстытуту дасьледуе гэтае пытаньне нацыянальнасьці дзяўчыны пазьней сёлета.

## КАТЫНЬ — ХАТЫНЬ

Газэта The New York Tribune (9.IX.87) зьмясціла артыкул былога польскага пасла ў Японіі, які ў 1981 годзе застаўся на Захадзе, Зьдзіслава Руража пад заг. «Савецкая дэзынфармацыя для прыкрыцьця злачынства ў Катыні». Рураж піша, што нядаўна на амэрыканскім тэлебачаньні паказвалі дакумэнтальны фільм пра Савецкі Саюз, у якім расказвалася й пра беларускую вёску Хатынь, 149 жыхароў якое былі жыўцом спаленыя Немцамі ў 1943 годзе. На месцы вёскі стаіць цяпер мэмарыяльны комплекс, куды езьдзіць маса замежных турыстаў.

Рураж ставіць пытаньне: чаму з 627-х вёсак, зьнішчаных Немцамі на Беларусі, Саветы выбралі якраз Хатынь для пабудовы там помніка? У Хатыні загінула не найбольш людзей. Прыкладам, у Моталі было зьнішчана — 2000 жыхароў, у Байкох — 927, у Борках — 711. Хатынь была абраная таму, піша Рураж, каб заблытаць сьляды савецкага злачынства ў Катынскім лесе, што пад Смаленскам, дзе ў 1940 годзе НКВД зьнішчыла 15 тысячаў польскіх ахвіцэраў. У красавіку 1943 г. Немцы адкапалі ў Катынскім лесе больш за чатыры тысячы трупаў польскіх ваеннапалонных. Тады-ж прадстаўнікі Чырвонага Крыжа, а ў 1952 годзе амэрыканская кангрэсавая камісія, устанавілі, што масавае забойства польскіх ваеннапалонных было зробленае ў красавіку-травені 1940 году, значыць, зробленае Саветамі.

У згаданым вышэй тэлефільме, як піша Рураж, слова «Хатынь» трансьлітараванае як «Katyn».

Пішучы пра Хатынь, Рураж заяўляе раптам, што вёска была заселеная «галоўна Палякамі». Адкуль Рураж узяў, што жыхарства Хатыні было ў бальшыні польскае, ён не паясьняе. Але шмат хто з Палякоў разважае так: калі на Беларусі жыве каталік, дык ён мусіць быць Паляком. Ці бальшыня жыхароў Хатыні была каталікамі, пытаньне ня высьветленае. Але калі-б і была, дык гэта ня значыць, што хатынцы былі Палякамі. Хіба пан Рураж адмаўляе Беларусу права быць каталіком.

## ВЕЧАР З ПРАФЭСАРАМІ З ВАРШАВЫ

У Нью-Ёрку 16-га верасьня адбылася сустрэча з загадчыкам катэдры беларускае філялёгіі Варшаўскага Унівэрсытэту праф. Аляксандрам Баршчэўскім. Ён-жа — старшыня галоўнае ўправы Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Польшчы, ведамы літаратар (псэўданім Алесь Барскі) і публіцыст, які часта друкуецца на старонках газэты «Ніва». З др. А. Баршчэўскім прыехаў у ЗША і ягоны акадэмічны калега, выкладчык таго-ж унівэрсытэту, славіст праф. Альбэрт Барташэвіч. Абодвы яны прыбылі ў Амэрыку на запросіны Куінскага Каледжу (частка Ньюёркскага Гарадзкога Унівэрсытэту), у якім і адбывалася сустрэча беларускае грамады Нью-Ёрку з двума наведнікамі.

Сп. Баршчэўскі расказаў пра беларускае жыцьцё на Беласточчыне, пра будаваньне Беларускага музэю ў Гайнаўцы, раздаў пісьмовыя падзякі ньюёркскім Беларусам за грашовыя ахвяры на музэй, заклікаў падтрымваць далей гэтае важнае будаўніцтва.

Праф. Барташэвіч, які данядаўна быў дэканам Славістычнага факультэту, а цяпер пераведзены на іншае становішча, кіруе таксама групай філёлягаў (9 асобаў), якія апрацоўваюць двутомавы беларуска-польскі слоўнік. Сп. Барташэвіч паінфармаваў пра ход працы над слоўнікам, сказаў, што недзе на пачатку 90-х гадоў слоўнік пабачыць сьвет.

На заканчэньне вечару Алесь Барскі прачытаў колькі сваіх вершаў, якія вельмі спадабаліся слухачом, падараваў прыхільнікам ягонае паэзіі свае зборнікі, аўтографы.

Госьці прабудуць у ЗША колькі тыдняў.

## З МАЙГО ПАДАРОЖЖА ПА ЗША

«Чаму-ж-бы табе не напісаць у 'Беларуса', не апісаць свайго падарожжа па Злучаных Штатах?» — так мне сказала Надзя коратка перад маім ад'ездам. Разьвітваючыся з маймі дарагімі сябрамі на лётнішчы, гэткую самую думку я пачуў і ад Галіны. Як-жа тады ім адмовіць, маім праваднічкам і апякункам, безь якіх я не пабачыўбы ўсяго таго прыгожага, што мне давялося пабачыць, або пабачыў-бы шмат менш? Цяпер, калі дарожны пыл асеў ды ўражаньні крыху ўпарадкаваліся, адно ўжо ў думках пачынаю ізноў маё падарожжа...

А трэцяй з палавінаю папаўдні прызямляемся на аэрапорце Кенэды ў Нью-Ёрку. Выйшаўшы з самалёту, трапляем як-бы ў турэцкую лазьню: гарачыня й вільгаць. Толькі й чую, як пацёк па сьпіне ручаёк поту, а ўсё адзеньне прыліпае да мокрага цела. Спатыкае мяне даўны мой знаёмы з маленькаю шыльдачкаю: «Алёша». Дарагі Валодзя, я і бяз гэтага Цябе пазнаў-бы, хоць мінула ўжо 40 гадоў ад нашага разьвітаньня. Крыху далей — Нюра. Вось, Нюрка, быў я ў Вас на кватэры да вайны, у вайну, ды прыехаў ізноў! Незабыўнае спатканьне.

Дома ў Валодзі таксама гарачыня, хоць вэнтылятары працуюць на поўны ход. Разьдзявайся і... пад shower! Прышніца крыху асьвяжыла, але ўсьлед-жа пасьля ізноў увесь мокры. Нуж і клімат!

Нью-Ёрк. Агледзіны пад праваднічтвам Нюры пачалі ад статуі Свабоды. Яна-ж бо вітала калісь мільёны людзей, што шукалі свабоды, дабрабыту, прытулку, а сёньня найчасьцей вітае турыстаў. Кароткі праезд параплавам і мы ўжо на астраўку. Наведнікаў многа. Каб зьведаць статую знутра, — вялікая чарга. Але ўсё-ж яе не спалохаўся, ані гарачыні. І не пашкадаваў, бо відок з самага верху на горад прыгожы, велічны. Каб дапоўніць агляд гораду «зьверху», забраліся мы й на самы высокі будынак Нью-Ёрку — World Trade Center — 415 мэтраў увышкі. Адтуль горад, — як на карце. Вось там — бачыш? — Брадвэй і Таймс Скуэр, а там Пятая Авэню. А гэта — Эмпайэр Стэйт Білдынг, Ракэфэлерскі Цэнтар... А там — гэта Бруклін, а крыху лявей — Куінс... Мангатэн — неверагодная канцэнтрацыя хмарачосаў, багацьця.

Зьведалі горад, хутчэй Мангатэн, і «зьнізу», каб проста адчуць атмасфэру, наколькі гэта магчыма, агледзець яго больш цікавыя мясьціны, вуліцы, будынкі. Трэба абмяжоўвацца, бо мусіў-бы тут застацца на месяцы, каб пабачыць усё: Будынак Аб'еднаных Нацыяў, Ракэфэлерскі Цэнтар, Публічную Бібліятэку — адну з найбольшых у сьвеце... Трэба-ж было пабыць і на Уол-Стрыце, і на Брадвэі, і на шыкоўнай 5-й Авэню, зьведаць і сьвятыні, заціснутыя сярод бэтону хмарачосаў, як-бы ім там і ня было месца... Трэба было прайсьціся, хоць толькі краёчкам, па Цэнтральным Парку.

У нядзелю, на чацьверты дзень па прыезьдзе, давялося часова разьвітацца зь Нью-Ёркам. Самаходам Валодзі, разам зь Нюраю і даўнімі знаёмымі Міхасём і Нінай, паехалі мы ў Нью-Джэрзы, на хрэсьбіны дачушкі Людмілы й Біла, а ўнучкі Васіля й Галіны.

Васіль і Галіна — арганізатары майго падарожжа ў Злучаныя Штаты, найдаўнейшыя з маіх сяброў. З Васілём мы былі ў 1936 (!) годзе ў аднэй клясе гімназіі. Кавалак часу! Хоць спатыкаў я іх ня так даўно ў Бэльгіі, але як-жа прыямней было спаткаць іх тут, на сямейным сьвяце. Як прыемна было пазнаёміцца зь Людмілаю і Білам — бо Натальлю я ўжо ведаў раней — ды зь іх дзецьмі Адамам і Эвэнам. Якія-ж слаўныя хлопцы! Ды як не захапіцца іхнай чысьцюсенькай беларускай моваю. Гэта-ж ужо Амэрыканцы трэцяга пакаленьня. А як прыемна было пазнаёміцца і з Надзяю Кудасавай. Хоць бачыў часта яе на фатаграфіі ў газэтах, заўсёды ў народным палескім строі і з прасьніцаю, як-жа інакшаю яна была ў рэчаіснасьці, у беленькай сукенцы з чырвоным тканым паяском! З радасьцю пазнаёміўся і з др. Алаю. Прыемна, бо хіба першы раз ад даўгіх гадоў, акунуцца ў беларускую моўную стыхію, сярод столькі сваіх, хоць ужо й Амэрыканцаў.

Самэрсэт, штат Нью-Джэрзы — мясцовасьць, дзе жывуць Васіль з Галінаю й Надзя. Я сказаў-бы, што гэта ня горад, а парк. З вуліцы амаль і ня відаць іхных дамоў-вільляў. Дамы прасторныя, пабудаваныя надзвычай рацыянальна й прыгожа. Тут было-б і найлепш правесьці адпачынковыя вакацыі. Але Галіна ўжо прыгатавала для мяне цэлы маршрут, які мы й зрэалізавалі, хоць і зь некаторымі храналягічнымі зьменамі: замест запланаванай паездкі ў Вашынгтон, зьведалі мы спачатку з Надзяю Прынстан зь ягоным сусьветнай славы унівэрсытэтам, Нью-Брансьвік ды колькі цікавейшых будынкаў Ратгерскага унівэрсытэту. Надзя паказала багата абсталяваныя лябараторыі біялёгіі, дзе яна працуе, а Галіна — бібліятэку мастацтваў пры Ратгерскім унівэрсытэце, якою яна загадвае. Скарысталі з вольнага часу, каб хоць крыху памачыць ногі на пляжы ў Санды-Гуку.

**А. Арэшка**

*(Працяг у наступным нумары)*

## БЕЛАРУСКУЮ МОВУ Ў ЦАРКВУ

*Ліст да Варшаўскага Мітрапаліта*

Ад імя першага зьезду беларускіх студэнтаў Польскай Народнай Рэспублікі быў высланы Праваслаўнаму Мітрапаліту Варшаўскаму і ўсяе Польшчы ліст з просьбай-заклікам, каб Праваслаўная Царква выступала «зь ініцыятывай дзейнасьці на беларускай ніве і ствapaлa карысныя ўмовы дзеля захаваньня і разьвіцьця нацыянальнай сьвядомасьці».

У лісьце да мітрапаліта сказана: «Прапануем паступова і неадкладна ўключыць беларускую мову ў багаслужбы, выдавецкую дзейнасьць ды весьці на ёй працу зь дзецьмі і моладзьдзю».

Тэкст ліста апублікаваны ў газэце «Ніва» за 20.IX.1987 г., але сам ліст датаваны 29.III.1987 г. (студэнцкі зьезд адбыўся 28-29.III.1987).

Цікава будзе даведацца, якая была рэакцыя Мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Васіля на ліст ад беларускіх студэнтаў, ці робіць Праваслаўная Царква ў Польшчы якія-небудзь захады, каб задавольніць зусім слушныя спадзяваньні-просьбы, каб царкоўная гіерархія выявіла пашану да мовы бальшыні сваіх вернікаў. Пытаньне гэтае цікавіць асабліва амэрыканскіх Беларусаў, якія дапамагаюць грашыма будаўніцтву Сьвятадухаўскае царквы ў Беластоку і далейшая дапамога якіх будзе залежаць ад таго, як праваслаўныя гіерархі й сьвятары паставяцца да беларускае мовы. Праваслаўныя Беларусы ў ЗША спадзяюцца, што прыйдзе нарэшце час, калі сьвятары на Беласточчыне загавораць пабеларуску да сваіх вернікаў.

*Карэспандэнцыя з Аргентыны*

## ВЕРАСЕНЬ — МЕСЯЦ ІМІГРАНТАЎ

Верасень у Аргентыне — традыцыйны «месяц імігрантаў». Некаторыя правінцыі ладзілі фэстывалі, кожная на свой лад. Вельмі парадныя «фіесты» адбыліся ў правінцыі Місіёнэс з нагоды 90-годзьдзя прыбыцьця першых каляністаў з Галіччыны. Выступалі тут Украінцы разам з Палякамі. Сярод іх ёсьць і расьцярушаныя Беларусы, але яны свае арганізацыі ня маюць.



*Беларуская група са сьцягам БССР на парадзе ў Бэрыса.*

У гор. Бэрыса, дзе фэстываль адбываецца больш рэпрэзэнтатыўна, сёлета брала ўдзел у сьвяце імігрантаў 17 этнічных клюбаў. Парад ня быў гэткі ўрачысты, як за часамі вайсковых уладаў, але даволі таго, што былі прадстаўленыя ўсе этнічныя групы. Яны жывуць у згодзе, маюць свой самаўрад, Asociación de Entidadaes Extranjeros, усе маюць працу.

У фэстывалі ўзяў удзел і клюб «Восток», калішняе Тварыства імя Ф. Скарыны. На парад ад клюбу «Восток» прыбыў гурток моладзі, чалавек з паўсотні. Першай праехала, стоячы на самаходзе, «князёўна», далей ішлі са сьцягам савецкай Беларусі, ну й з аргентынскім, ды з шыльдай: «Colectividad Belorusa de Berisso». Вопратку мелі розную, не сказаўбы — беларускую. Як пасьля даведаўся, гэта была збор-дружына зь іншых гурткоў-клюбаў.

Насупраць трыбуны ваенны духавы аркестр граў пераважна маршы або мэлёдыі этнічных групаў. Калі паказаўся «Восток», грымнулі «Кацюшу». У Аргентыне песьня гэтая знаная, але не спадзяваўся, што аркестр падрыхтаваў яе да параду.

Па ўрачыстасьці пайшоў наведаць клюб «Восток». Звонку відаць, што будынак расьце, хоць яшчэ праца поўнасьцяй не закончаная. На вуліцы стаяць аўтабусы й прыватныя самаходы, якімі прыехала моладзь зь іншых клюбаў. Калі зайшоў у будынак (маючы напагатове дакумэнт ад сындыкату аргентынскіх журналістаў), мяне абступілі й давай распытваць: у якую газэту пішу, можа ў «Беларускі Голас»? Можа пішаце супраць нашае радзімы? І г.д.

— Ці вы савецкі гражданін?

— Не, я аргентынскі.

— Чаму ня маеце савецкага пашпарту?

— Таму, што я прайшоў сталінскае «перевоспитание» на Северы!..

— Но вы не павінны выступаць супраць свае радзімы, Савецкага Саюзу!..

— І другі раз «на Север» ехаць ня зьбіраюся. Мой дом і сям'я ў Аргентыне.

Даволі агрэсыўна штурмавалі мяне, а пры гэтым некаторыя хваліліся, што былі ў Савецкім Саюзе, што там вельмі добра...

Наколькі мне ведама, цяперашнія клюбы савецкіх грамадзянаў — гэта калішняе беларускае таварыства. Яны знаходзяцца цяпер пад наглядам савецкага палпрэдства. Саветы прысылаюць сюды інструктароў, арганізуюць выстаўкі. Ці фінансава дапамагаюць? Здаецца, што не. Але з пашпартамі зьменшылі фармальнасьці. І Аэрафлот дае вялікія зьніжкі. За пралёт у два бакі, які афіцыйна каштуе дзьвятры тысячы даляраў, плаціцца трацціна або чацьвертая частка. Самалёты Аэрафлоту заўсёды перапоўненыя, бо й эўрапейцы карыстаюцца ільготнымі білетамі.

Пагуратыў крыху з «князёўнай» (Ф. Чапоўскай), студэнткай другога году фармацэўтыкі ў Ля-Пляце. Выступае ў балеце, вясёлая, выспартаваная, без палітычных камплексаў. Праблемы бацькоў ці дзеда (які калісьці быў у польскай арміі) яе не хвалююць.

Залучаю адрасы пяцёх былых беларускіх клюбаў, якія былі перайменаваныя ў клюбы імя М. Горкага, Н. А. Астроўскага, Бялінскага, Пушкіна, Маякоўскага.

**Э. Цяўлоўскі**

## ТЫДЗЕНЬ СЛАВЯНСКАЙ СПАДЧЫНЫ

Сёлета славянскія групы Нью-Ёрку адзначалі ад 19-га па 24-га кастрычніка свой гадавы Тыдзень Славянскае Спадчыны. З гэтай нагоды мэр гораду Нью-Ёрку Эдуард Кач і губэрнатар штату Марыё Куома выдалі праклямацыі, у якіх адзначылі ўклад славянскіх народаў у жыцьцё Амэрыкі ды заклікалі школы, культурныя ўстановы ўзяць удзел у ўрачыстасьцях Славянскага Тыдня. Арганізацыя, якая праводзіць адзначэньне Славянскага Тыдня, завецца Славянская Рада Амэрыкі. У склад Рады ўваходзяць розныя арганізацыі славянскіх народаў, у тым ліку й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Сп-чна Рая Станкевіч — шматгадовы сакратар Славянскае Рады. У арганізацыйны-ж камітэт адзначэньня Славянскага Тыдня працягам шэрагу гадоў уваходзіць сп. Антон Шукелайць, сп-чна Р. Станкевіч ды часамі прадстаўнікі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Сёлетняе адзначэньне Славянскага Тыдня ў Нью-Ёрку пачалося выстаўкай нацыянальных касьцюмаў славянскіх народаў, якая адчынілася 19 кастрычніка ў памешканьні Ўкраінскага Інстытуту Амэрыкі ды трывала да канца месяца. Трэба падкрэсьліць, што выстаўка касьцюмаў была надзвычайна памастацку аформленая ды што ў арганізацыі выстаўкі дапамагаў таксама музэй гораду Нью-Ёрку.

Выдатнай культурнай імпрэзай Славянскага Тыдня быў таксама літаратурна-песенны вечар славянскіх народаў, які адбыўся 20-га кастрычніка ў Фундацыі імя Касьцюшкі. Ад Беларусаў у канцэрце выступіў Багдан Андрусышын (Данчык), якім, як і заўсёды, была захопленая ўся аўдыторыя.

22-га кастрычніка адбылася афіцыйная сустрэча прадстаўнікоў славянскіх арганізацыяў, арганізатараў Славянскага Тыдня з прадстаўнікамі гораду, друку ды акадэмічных установаў гораду, а ў пятніцу 23-га ў Украінскім Інстытуце Амэрыкі адбылася рэфэрат і паказ слайдаў на тэму «Сымболіка Славянскага Адзеньня.

Заключнай імпрэзай Славянскага Тыдня ў Нью-Ёрку будзе, як і летась, вялікі канцэрт у залі Лінкольнскага Цэнтру ў сыботу 30 студзеня 1988 году.

Прыпамінаем гэтта нашым чытачом у раёне Нью-Ёрку, каб загадзя куплялі білеты на гэты канцэрт, бо летась колькі сотняў асобаў на канцэрт ня трапілі, паколькі білеты былі распрададзеныя ўжо на пачатку сьнежаня. У канцэрце выступае беларускі танцавальны ансамбль «Васілёк» і Данчык.

Як і мінулымі гадамі, сёлета Славянскі Тыдзень у Нью-Ёрку прайшоў зь вялікім уздымам ды выдатна паказаў славянскую спадчыну, а ў ёй і спадчыну беларускую.

**В. К.**

## ДАКТАРАТ ДАНІЛЫ МЕРЛЯКА

Сярэдні сын сп-тва Ганны й Кастуся Мерлякоў, Даніла, здабыў высокую ступень доктара філязофіі (Ph.D.) ў галіне біялягічных навукаў. Як студэнт Нью-ёркскага Штатнага Ўнівэрсытэту пры Навуковым Цэнтры Здароўя ў Брукліне, Даніла Мерляк абараніў 11 верасьня сёлета тэзу: Modulation and Desentization of the GABA Receptor: Effects of Benzodiazegines and Divalent Cautions on GABA responses of Spinal Cord Neurons in Culture.



*Др. Даніла Мерляк*

Праца маладога вучонага прысьвечаная вывучэньню ўзьдзеяньня гэткіх наркотыкаў, як валій і лібрый, на электрычныя ўласьцівасьці клетак сьпіннога мозгу. Абарона дысэртацыі прайшла ўдала. Дзень 11-га верасьня быў ня толькі днём перамогі, але й днём урачыстасьці: у гонар др. Данілы Мерляка адбылося прыняцьцё. Прафэсары, бацькі, калегі шчыра віталі новага навукоўца.

Др. Даніла Мерляк будзе школіцца далей у агульнай мэдыцыне, што будзе трываць два гады.

**Васіль Шчэцька**

### ПАМЯТКІ 1000-ГОДЗЬДЗЯ ХРЫСЬЦІЯНСТВА

На адрас «Беларуса» прыходзіць ладна запытаў з музэяў, калектарскіх калектываў ды індывідуальных калекцыянераў аб дасыланьні ім беларускіх сувэніраў, наклеек, марак, спэцыяльныз блянак і г.д. зь беларускай адзнакай гэтага важнага юбілею. Газэта «Беларус» зварачаецца да сваіх падпішчыкаў і беларускіх арганізацыяў з просьбай прысылаць на наш адрас па колькі гэткіх сувэніраў, а адмністрацыя газэты будзе перасылаць іх зацікаўленым музэям і калекцыянерам.

### *БЕЛАРУСКІЯ ПРАЗАІКІ ПААНГЕЛЬСКУ*

Маскоўскае выдавецтва «Радуга» выдала паангельску зборнік апавяданьняў беларускіх пісьменьнікаў пад заг. «Смаленьне вяпрука» (гэта загаловак апавяданьня нядаўна памерлага Міхася Стральцова, якім пачынаецца кніга). У кнізе прадстаўленыя 24 аўтары. («Неман», 1987, № 8).

## *СУСТРЭЧА Ў СКАРЫНІНЦЫ*

27 верасьня сёлета ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане адбылася сустрэча лёнданскіх Беларусаў зь беларускімі грамадзкімі дзеячамі й дасьледнікамі з Амэрыкі, др. Вітаўтам Кіпелем і сп-няй Зорай Кіпель.

Сп. Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, вітаючы гасьцей, коратка зазначыў аб іхнай дасьледчай і грамадзкай дзейнасьці — сп-ня Кіпель займае пасаду заступніка загадчыка Славянскага Аддзелу Нью-ёркскае Публічнае Бібліятэкі, працуе ў галіне літаратуразнаўства, а др. Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, працуе над дасьледаваньнем пасяленьня Беларусаў у ЗША. Мэтай-жа спатканьня, сказаў сп. Я. Міхалюк, — пачуць ад гасьцей аб іх дасьледчых праектах ды плянах дзейнасьці БІНіМ'у.

Пачынаючы гутарку, сп. Кіпель адзначыў, што для іх — гэта першы візыт у Эўропу па 32-гадовым пабыце ў ЗША (сп-тва Кіпелі былі ў Лёндане ў 1952 годзе, калі беларускі студэнцкі песенна-танцавальны ансамбль Лювэнскага Ўнівэрсытэту прыяжджаў у Лёндан з канцэртам). Гаворачы аб выдавецкіх плянах БІНіМ'у, В. Кіпель падрабязна расказаў аб працах, што знаходзяцца цяпер у друку: збор твораў Міхася Кавыля, «Бібліяграфія Скарыніяны» др. Вітаўта Тумаша, кніга «Запісаў», хрэстаматыя да гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі ды колькі іншых публікацыяў, выданьне якіх заплянаванае на пазьнейшы час.

Цікавую інфармацыю падаў В. Кіпель да гісторыі пасяленьня Беларусаў ў ЗША. Наўсуперк ранейшаму пагляду, што актыўнае беларускае жыцьцё ў ЗША пачалося толькі з прыездам беларускіх імігрантаў па Другой сусьветнай вайне, сказаў ён, беларускія арганізацыі ў Амэрыцы дзей-

*(Заканчэньне на 6-й б.)*

## СУСТРЭЧА Ў СКАРЫНІНЦЫ

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

нічалі раней. В. Кіпель расказаў аб тым, як Беларусы ў Злучаных Штатах выпісвалі газэту «Наша Ніва», перамагаючы перашкоды з боку Праваслаўнае Царквы, якая была на ўтрыманьні царскае адміністрацыі.

Далей др. Кіпель сказаў, што 27 гадоў ягонае працы ў аднэй з найбольшых бібліятэкаў сьвету, Ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы, вырабілі ў яго пачуцьцё, што ў гэнай бібліятэцы калекцыя беларусікі найбагацейшая на Захадзе. Аднак, прызнаўся дакладчык, працуючы ў Скарынінцы, мы пабачылі, што ня ўсё можа быць сабранае ў вялікую бібліятэку, вялікая бібліятэка мае свае стандарты й свае абмежаваньні. І таму, сказаў В. Кіпель, мы адчулі вялікі гонар і задаваленьне, што беларуская эміграцыя мае Беларускую Бібліятэку імя Ф. Скарыны, дзе зьбіраецца і тое, што ёсьць у вялікіх бібліятэках, ды таксама тое, чаго ня знойдзеш у ніякай іншай бібліятэцы, а толькі ў беларускай. «Беларускія кніжныя й архіўныя фонды ў Скарынінцы — гэта скарб беларускай культуры», закончыў свае выказваньні госьць зь Нью-Ёрку.

Далей адбыўся абмен думкамі: а. Надсон адзначыў важнасьць дасюлешняй працы Вітаўта й Зоры Кіпеляў, асабліва вартасьць апрацаванае імі бібліяграфіі аб Я. Купалу й Я. Коласу; госьці адказалі на розныя пытаньні аб жыцьці Беларусаў у ЗША. Сярод прысутных былі таксама паважаныя праф. Дж. Дынглі ды сп-чна Вера Рыч.

На заканчэньне сп. Я. Міхалюк пажадаў гасьцям удачаў у далейшай працы ды запрасіў усіх на шклянку гарбаты, пры якой гутаркі й абмен думкамі трывалі яшчэ даўгавата. Госьці пакінулі вельмі прыемны ўспамін. Шчасьці ім Божа ў далейшай працы.

**А. Зданковіч**

### З ЖЫЦЬЦЯ Ў ЧЫКАГА

## ЗА ВЫЗВАЛЕНЬНЕ М. КУКАБАКІ

Сп-ня Вера Рамук, якая аддаўна робіць вельмі шмат, каб дамагчыся вызваленьня з СССР беларускага вязьня сумленьня Міхася Кукабакі, выступіла 27 верасьня сёлета ў беларускай радыяпраграме «Нёман» з заклікам да слухачоў, каб яны на працягу кастрычніка слалі лісты ў міністэрства юстыцыі Савецкага Саюзу з просьбамі аб вызваленьні з канцлягеру М. Кукабакі й дазволу яму выехаць з СССР.

Сп-ня Рамук паінфармавала таксама радыяслухачоў аб тым, што ў Чыкага рыхтуецца дэманстрацыя ў абарону М. Кукабакі, якая адбудзецца 30-га кастрычніка.

## 200-ГОДЗЬДЗЕ КАНСТЫТУЦЫІ ЗША

Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага арганізаваў удзел Беларусаў у парадзе на адзначэньне 200-годзьдзя Канстытуцыі Амэрыкі, што адбыўся 17-га верасьня сёлета на вялікім спартовым стадыёне «Уайт Сокс». Беларусы-Амэрыканцы йшлі сваёй групай, бальшыня ў нацыянальнай вопратцы, з двума вялікімі сьцягамі, беларускім і амэрыканскім. Усе несьлі таксама амэрыканскія сьцяжкі. З публікі, калі наша група праходзіла, было чуваць: «You look wonderful!» («Выглядаеце цудоўна!»).

## БЕЛАРУСЫ Ў ШТАЦЕ ПЭНСЫЛЬВАНІЯ

Беларусы пачалі сяліцца ў штаце Пэнсыльванія ад канца мінулага стагодзьдзя. Ведамы амэрыканскі дасьледнік Славянаў Эміль Бэлч выказаўся ў 1910 годзе, што ў вугальным басэйне штату жыло колькі тысячаў шахцёраў з тэрыторыі расейскай імпэрыі. Пераглядаючы-ж мясцовыя газэты гарадоў Скрэнтану, Кінгстану, Вілкс-Баррэ ды іншых гарадоў «вугальнае паласы» штату, кідаецца ў вочы, што ў паведамленьнях пра нешчасьлівыя выпадкі ў шахтах часта трапляюцца прозьвішчы горадзенскіх, менскіх і віленскіх землякоў. Відавочна, што тысячы тых выхадцаў з Расеі, аб якіх успамінаў Эміль Бэлч, былі Беларусы. У аналах Амэрыканскае Праваслаўнае Царквы таксама адзначаецца, што Беларусы былі будаўнікамі шмат якіх праваслаўных цэркваў, арганізатарамі прыходаў у штаце Пэнсыльванія.

Нажаль, беларускае арганізацыйнае жыцьцё пачало праяўляцца ў штаце Пэнсыльванія толькі ў 1950-х гадох з прыездам у Амэрыку паваенных імігрантаў. На пачатку 50-х гадоў у горадзе Філядэльфіі, калысцы незалежнасьці Злучаных Штатаў, адзначалася сьвята 25-га Сакавіка (др. Ст. Грынкевіч). Пазьней, дзякуючы стараньням сп. Міколы Грэбеня, губэрнатар штату штагоду абвяшчаў дзень 25 сакавіка «Беларускім Днём» штату. У Пэнсыльваніі было выдадзена колькі беларускіх жэтонаў у ходзе выбарчых мясцовых кампаніяў. Ад 70-х гадоў Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне бярэ актыўны ўдзел у фэстывалях, якія арганізуе Штатны Ўнівэрсытэт у горадзе Стэйт-Калэджы.

**В. З.**

## ДР. ТЫЛЬДА ЗАНКОВІЧ — ДЭКАН

Др. літаратуразнавец Тыльда Занковіч, жонка нашага выдатнага беларускага доктара-хірурга Анатоля Занковіча, ад 1-га верасьня сёлета займае становішча кіраўнічкі аддзелу францускае мовы Нортвэстэрнскага ўнівэрсытэту ў гор. Эванстоне каля Чыкага. Др. Тыльда Занковіч з паходжаньня Фляманка, родам з Бэльгіі. Унівэрсытэцкую асьвету яна здабыла ў Лювэне ў 1955 годзе. У Амэрыку прыехала з мужам Анатолем у 1957 годзе. Займалася спачатку сям'ёй. У 1969 г. пачала выкладаць францускую мову ў Нортвэстэрнскім у-це, дзе ў 1973 годзе зрабіла дактарат з францускай літаратуры.

Сп-тва Занковічы маюць тры даросьлыя дочкі, Анну-Мары, Наташу й Ніну. Усе яны паканчалі вышэйшыя школы ды спэцыялізуюцца далей у галінах мастацтва, славістыкі й права.

Усёй сям'і Занковічаў — шчырыя пажаданьні далейшай плённай працы, удачаў і добрага здароўя.

## ВІТАЕМ СП-НЮ Т. ТАРАСЭВІЧ

Нашу слаўную й няўтомную пральлю, якая заўсёды самаахвярна рэпрэзэнтуе Беларусь на міжнародных імпрэзах ды шчодра памагае Беларускаму Каардынацыйнаму Камітэту ў Чыкага сваймі ахвярамі, шчыра вітаем з днём нарадзінаў, што прыпадае на 6-га кастрычніка.

Шчасьці Вам Божа добрым здароўем на многія гады, дарагая Тэрэса.

**Вера Рамук**

(Паводля тэкстаў радыяпраграмы «Нёман» з 27 верасьня 1987 г.).

# НА ФЭСТЫВАЛІ Ў ПЭНСЫЛЬВАНІІ

У гор. Кінгстане Люцэрнскай акругі адбыўся 15-18 кастрычніка сёлета 12-ты гадавы фэстываль этнічных групаў гэтае акругі. Упяршыню ў фэстывалі ўзялі ўдзел і Беларусы. Шмат якія беларускія ўдзельнікі былі ў нацыянальных касьцюмах, на стэндах былі раскладзеныя беларускія выданьні, сувэніры, у цэнтры вісела вялізарная каляровая карта этнічнае тэрыторыі Беларусі.

У Люцэрнскай акрузе жыве шмат Амэрыканцаў беларускага паходжаньня. Тыя зь іх, што пабывалі на фэстывалі, мелі нагоду даведацца, адкуль прыбылі іхныя бацькі-дзяды.

Беларускія стэнды прыцягвалі зацікаўленьне наведнікаў багацьцем экспанатаў: інкрустацыя саломкай, кераміка, вышыўкі, вязаньне, разьба па дрэве й г.д. Пры беларускіх стэндах дэманстравалася таксама прадзеньне кудзелі й вязаньне паясоў. Як і на шмат якіх іншых фэстывалях, беларуская пральля (яе трэ было-б назваць беларуска-ўсеамэрыканскай пральляй) сп-ня Надзя Кудасава была зьнятая на тэлевізійную йстужку ды паказаная ў паведамленьнях на мясцовым тэлебачаньні.

Сп-ня Тамара Кольба пляценьнем паясоў таксама выклікала вялікае зацікаўленьне публікі й фатографаў.

Шмат увагі прыцягнула да сябе карта Беларусі, да якое падыходзілі нашчадкі Беларусаў і распытваліся ў гіда пра тую ці іншую мясьціну «старога краю», адкуль прыехалі іхныя прашчуры.

Удзел у фэстывалі Люцэрнскае акругі стаўся магчымы дзякуючы напорнай актыўнасьці сп-тва Галіны й Анатоля Кучураў, маладых беларускіх пасяленцаў у гэтай мясцовасьці. Сп-ня Галіна Кучура (Галя Вайцяхоўская) увайшла ў розныя арганізацыйныя камітэты, прарабіла патрэбную адміністрацыйную работу ды вельмі ўдала прадставіла беларускую нацыянальнасьць.

Галіне, як і ейнаму мужу Анатолю, ды іхным ахвярным і здольным супрацоўніцам — сп-ням Надзі Кудасавай, Галіне Русак ды сп-твам Рагалевіч-Дутко й Стагановіч-Кольба — належыцца вялікая падзяка. **В. Зубкоўскі**

### *З ЖЫЦЬЦЯ Ў САЎТ-РЫВЭРЫ*

## ПАРАФІЯЛЬНЫ ПІКНІК

Прыхаджане беларускае праваслаўнае царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры ў штаце Нью-Джэрзы (юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха) двойчы на год ладзяць свае парафіяльныя сьвяты: увесну адзначаюць дзень патронкі, а ўвосень на Пакровы — угодкі высьвячэньня на пачатку 1950-х гадоў свайго першага царкоўнага будынку.

Царкоўнае жыцьцё ў парафіі апошнім часам набрала новае энэргіі ў сувязі з прыездам зь Беласточчыны новага сьвятара, а. Мячыслава Брынкевіча, новага рэгента сп. Яўгена Скаўронскага. Аднавіла сваю дзейнасьць сястрыцтва (стыршыня — сп-ня Ірэна Рагалевіч-Дутко).

Сьвята Пакроваў было адзначанае сёлета ў нядзелю 18-га кастрычніка. Айцец Мячыслаў па сьв. Літургіі адслужыў малебен, — служыць ён прыгожа, мае добры голас, — зладжана сьпяваў хор пад здольнай рукою новага рэгента. Па багаслужбе на пляцы каля царквы за расстаўленымі сталамі прыхаджане й госьці, больш за 120 асобаў, мелі прыемнасьць у лагодны сонечны дзень пасмакаваць добрых страваў, нарыхтаваных сяброўкамі сястрыцтва, пагутарыць, паслухаць беларускіх песьняў з магнітафону сп-ні Любы Бахар ды мэлядыйнага акардыёну Івана Альхоўскага.

Удзельнікі сьвяткаваньня шчыра й дабразычліва прапаялі «Многая лета» двум адданым працаўніком парафіі: сп. Міхасю Бахару, даўгагадоваму й рупліваму старшыні царкоўнае рады, ды сп. Міхасю Палюховічу, вэтэрану грамадзкае працы. **Я. З.**

### *КАЛЯДНЫЯ ВІНШАВАНЬНІ*

Традыцыйна ўжо чытачы «Беларуса» перасылаюць праз газэту свае калядна-навагоднія вітаньні, складаючы пры гэтым пасільную ахвяру ў выдавецкі фонд «Беларуса». Спадзяёмся, што шмат хто з чытачоў зробіць гэтак і сёлета. Просім толькі загадзя паведаміць аб гэтым рэдакцыю ці нашага прадстаўніка на месцы. Тэрмін на атрыманьне рэдакцыяй прозьвішчаў (і ахвяраў) для ўлучэньня ў сьвяточны сьпіс — 1-га сьнежня.

### З ЖЫЦЬЦЯ Ў БРАДФОРДЗЕ

## КЛЮБ «САКАВІК». АДДЗЕЛ ЗБВБ

13-га верасьня сёлета адбылася гадавая зборка сяброў клюбу «Сакавік». Фінансавая справаздача паказала на вельмі задавальняючы стан. Найбольшая падзяка тут належыцца старшыні клюбу сп. Ф. Лемяшонку й ягонай жонцы Марыі, Яны, фактычна, і вядуць гэты клюб ужо даўгія гады.

На зборцы быў сп. Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ. Ён выказаў падзяку ўправе «Сакавіка» за фінансавую дапамогу ЗБВБ, безь якой, цяжка было-б весьці выдавецкую ці іншую дзейнасьць для дабра Беларусі.

Таго-ж самага дня адбыўся сход Брадфардзкага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Былі грунтоўна абмеркаваныя розныя справы, як удзел Беларусаў у дзейнасьці мясцовае арганізацыі «Паняволеныя Народы», адзначэньне 1000-годзьдзя хрысьціянства на Беларусі. На сходзе разам із старшынём ЗБВБ сп. Міхалюком быў таксама сябра галоўнай управы Згуртаваньня сп. Я. Ясьвіловіч.

У ўправу Брадфардзкага аддзелу ЗБВБ былі выбраныя: сп. Ф. Лемяшонак — старшыня, сп. М. Шведзюк — сакратар і сп. А. Калько — скарбнік.

**М. Шведзюк**

### *ПРАВАСЛАЎНЫЯ Ў ПОЛЬШЧЫ, ХТО ЯНЫ?*

На старонках выдаванае ў Лёндане месячнае публікацыі Orthodox News вядзецца палеміка на тэму нацыянальнае прыналежнасьці праваслаўных у Польскай Народнай Рэспубліцы. Адзін дапісчык выказаў пагляд, што трацина польскіх праваслаўных — гэта Палякі. Двойчы ў газэце браў голас сп. М. Шведзюк, наш суродзіч, які жыве ў гор. Рагбі. У сваіх лістох у рэдакцыю (у леташнім сьнежанскім нумары і сёлетнім верасьнёўскім) сп. Шведзюк напісаў, што бальшыня праваслаўных у Польшчы — гэта найбольш Беларусы, а таксама Украінцы й Расейцы. Пераважная бальшыня праваслаўных у Польшчы не ўважаюць сябе за Палякоў, напісаў сп. Шведзюк.

## ПАМЯЦІ АЎГЕНА КАХАНОЎСКАГА

*Таронта.* — Бывае, што й карэспандэнт газэты забудзецца якую вестку ў часе падаць. І тады раптам ад некага пачуеш: «Слухай, як гэта ты нічога не напісаў пра тое ды гэна?» Чырванеій і апраўдвайся. Гэтак прыблізна здарылася і з аўтарам гэтых радкоў. Але цяпер пра тую вестку.

У канцы травеня сёлета адыйшоў ад нас выдатны беларускі гісторык, навуковец, палітычны дзеяч, пісьменьнік Аўген Каханоўскі . Адслужылі па ім паніхіду ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, а сорак дзён пасьля, 12-га ліпеня, зь ініцыятывы мгр. Валер'яна Навіцкага зарганізавалі, вядома-ж, пасьля паніхіды, абед і даклад.

Пра нябожчыка было што гаварыць. Ён пад маскоўскай акупацыяй зазнаў шмат гора, быў на высылцы ў Сібіры і ўсю рэшту свайго жыцьця аддаў беларускай навуковай, асьветнай і палітычна-грамадзкай дзейнасьці.

Сам дакладчык, ураджэнец Случчыны, пад савецка-маскоўскай акупацыяй дасканала ведаў тыя цяжкія часы, калі акупацыйны рэжым душыў усё жывое беларускае, што імкнулася, як некалі было модна казаць, «будаваць свой дзяржаўны беларускі дом». Гэткае дасьветчаньне мгр. В. Навіцкага дало яму магчымасьць даволі дакладна і ў цікавых колерах прадставіць ня толькі «жах трыццатых», але й выдатную ў беларускай гісторыі асобу адыйшоўшага ад нас і вельмі для народу заслужанага Аўгена Каханоўскага.

Мгр. Навіцкаму за цікавы даклад, да нашым заўсёды руплівым гаспадыням за абед належыцца ад нас вялікая падзяка.

**К. Акула**

## СЬВ. ПАМ. ОЛЯ ЗАПРУДНІК

**(18.І.1928-30.ІХ.1987)**



Па даўгой хваробе на рака, 30 верасьня 1987 году, скончыліся на 59-м годзе жыцьця пакуты Олі Запруднік. Пахаваньне адбылося ў сыботу 3-га кастрычніка. Паніхіду ў пятніцу ў пахавальным доме ў Мангасэце адслужылі Архіепіскап Мікалай і а. Карп Стар. У сыботу ў царкве Жыровіцкай Маці Божае ў Гайленд-Парку ў адпяваньні й паніхідзе ўзяў удзел разам з Уладыкам Мікалаем і а. Карпам таксама а. Аляксандар Яноўскі. Дваццаць дзевяць вянкоў, шмат удзельнікаў на пахаваньні сьветчылі пра вялікую пашану да нябожчыцы й ейнае сям'і, былі выявам шчырага спачуваньня.

Оля, цяжка хворая ўжо, праймалася, каб не памерці хоць у сьцюжу й холад, каб людзям не давялося мерзнуць у часе паховінаў. Страх ня збыўся — надвор'е было сонечна-цеплаватае, лагодна восеньскае, калі кветкі (якія нябожчыца гэтак любіла гадаваць) з асаблівай вайстрынёй нагадвалі пра мімалётнасьць красаваньня й зямнога быту...

У падцаркоўнай залі за памінальнымі сталамі сям'я, сябры, прыяцелі ўшанавалі традыцыйным абедам памяць памерлай, была нагода выказаць спачуваньні радні, падзяліць гора сям'і.

Цёплае разьвітальнае слова на могілках над пакрытаю бел-чырвона-белым сьцягам дамавінаю, сказаў сп. Антон Шукелайць, зь якім сьв. пам. Оля Запруднік шмат гадоў супрацоўнічала ў Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні. Прагучэла й разьвітальная песьня «Сьпі пад курганам гэроаў»...

Пра грамадзкую ахвярнасьць нябожчыцы, ейны беларускі патрыятызм сп. Шукелайць гаварыў і за памінальным сталом.

Уладыка Мікалай перадаў спачуваньні ад сп. Кастуся Акулы, у кароткім слове заклікаў жыць ня мінулым, а будучым.

Сп. Уладзімер Русак прыгадаў, як 43 гады таму ён разам зь сям'ёй Юркі Харытончыка, слуцкага паўстанца, выяжджаў зь Беларусі на эміграцыю, адзначыў пасьлейшую грамадзкую актыўнасьць ягонае старэйшае дачкі Олі, ейную дапамогу мужу Янку Запрудніку ў здабываньні вышэйшае асьветы ды ў ягонай нацыянальнай працы.

Прамаўлялі таксама сп-ня Г. Р. ды сп. Пётра Кажура, які адзначыў заўсёдную гатовасьць нябожчыцы дапамагчы ў грамадзкай працы.

На заканчэньне памінак сп. Янка Запруднік, прамаўляючы ад імя дочак Ніны з мужам і Веры, Олінай маці ды сёстраў Лёдзі, Зіны й Зоі з мужамі, падзякаваў Уладыку Мікалаю ды айцом Карпу й Аляксандру за багаслужбы, кіраўніку хору сп. Якубу Сапежынскаму й харыстам за добры сьпеў, сем'ям Бартулёў, Данілюкоў, Курылаў, Заморскіх за наведваньне хворай, асабліва Веры Бартуль за ейную непаслабную апеку над Оляй, сп. Тамашу Супруну й сям'і Раманаў за вялікую дапамогу ў пахаваньні, усім удзельнікам пахаваньня за кветкі, прыбыцьцё й спачуваньні, сп-ням Харавец, Ж. Дубяга й Г. Р. за падрыхтаваньне памінальнага абеду ды свайму хросьніку Жоржыку Талмачэвічу за гатовасьць памагчы ў доглядзе магілы нябожчыцы.

Вечная памяць Олі Запруднік.

## УШАНАВАЛІ АЛЕСЯ ГАРУНА

Сёлета 27-га верасьня ў таронцкай царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, пасьля літургіі, адслужылі паніхіду па Алесю Гаруну ды адсьвяткавалі ў царкоўнай залі сотыя ўгодкі ягонага нараджэньня. На сьвяце быў Першагіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай, запрошаныя госьці. Урачыстасьць адкрыла старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч і перадала голас пісьменьніку Кастусю Акулу, які зрабіў даклад.

Пазнаёміўшы прысутных зь біяграфіяй выдатнага беларускага паэта й змагара за незалежнасьць БНР, Акула схарактарызаваў ягоную творчасьць ды зьвярнуў увагу на спробы рэгабілітацыі Алеся Гаруна ў БССР, упаасобку на артыкул Уладзіміра Казьбярука «Цярністы шлях паэта» («Літ. і Маст.», 31.VII.87).

**К.**

## НАВЕДНІКІ МУЗЭЮ Ў ЛЯЙМЭНЕ

Беларускі Музэй у Ляймэне ў Зах. Нямеччыне наведалі (5.IX.87) дастойныя госьці: а. Аляксандар Надсон зь Лёндану і праф. Барыс Кіт з Франкфурту із сваёй спадарожніцай Тамарай. Наведнікі пабылі таксама ў Сант-Ільгене на могілках, дзе на цэнтральным пляцы стаіць Беларускі помнік, прысьвечаны памяці Беларусаў, што загінулі ў 1939-1945 гадох. Айцец Надсон сказаў чулую, пытрыятычную малітву за супакой душаў загінуўшых, пасьвяціў помнік. Айцец Надсон захапляўся прыгажосьцяй навакольля.

Побач цэнтральнага пляцу «заблякаванае» месца для вечнага супачынку заснавальніка Беларускага Музэю й Беларускага помніка. Горад Ляймэн забавязаўся даглядаць музэй, помнік ды магілу закладчыка.

У сувязі з пахвалою а. Надсонам уладкаванасьці музэю трэба адзначыць заслугу ў гэтым сп-ні Эльзы В., Немкі, якая шчыра адданая музэйнай справе. Фраў Эльза дбае аб тым, каб музэй заўсёды выглядаў прыгожа, бож ён таксама выкарыстаны як жыльлё. Заслуга ейная таксама і ў тым, што яна ад першага дня дбае аб прыняцьці й частаваньні наведнікаў.

Напэўна дастойныя госьці, а. Надсон і праф. Кіт, не шкадуюць, што ад самага пачатку памагалі стаць музэю на ногі, бо пабачылі цяпер, што ён стаўся паважнай установай, якая годна рэпрэзэнтуе беларускую культуру на Чужыне.

Варта тут нагадаць, што музэй наведваюць ня толькі людзі зь Нямеччыны, на пачатку сёлетняга году музэй наведала цэлая кляса амэрыканскай школы ў Гайдэльбэргу. Шкада толькі, што нашы мастакі ў ЗША не дацэньваюць вартасьці музэю ды ня прысылаюць сваіх абразоў, якія музэй з падзякай прыняў-бы. Хацелася-б таксама бачыць сярод наведнікаў музэю і Беларусаў зь Нямеччыны.

**Ю. Я-р**

### *ДЗЯКУЕМ!*

За прысланыя нам выразкі або ксэракопіі газэтных і часапісных матар'ялаў шчыра дзякуем: Веры Рамук з Чыкага, Алёшу Арэшку з Бруксэлі, Янку Міхалюку зь Лёндану, Лявону Шураку з Саўт-Рывэру, М. Шведзюку з Рагбі, Міхасю Раецкаму з Пэрту, Міколу Нікану з Мэльбурну, Эмілю Цяўлоўскаму з Буэнос-Айрэсу, Юр'ю Попку зь Ляймэну, Тамары Стагановіч-Кольба з Тынтон-Фолсу, А. Асіповічу з Джэксану, Браніславу Нагорнаму зь Ле-Крэзо, Васілю Мельяновічу з Апэрко, Кастусю Калошу з Кліўленду.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:

| | |
|---|---|
| 1. К. Мерляк | ам.дал. 100 |
| 2. В. Тумаш | 100 |
| 3. А. Цярэшка | 100 |
| 4. Б. Мшар | 100 |
| 5. А. Бразоўскі | 70 |
| 6. Ю. Каляда | 50 |
| 7. М. і В. Махнач | 50 |
| 8. І. Багун | 30 |
| 9. Н. Кушаль | 30 |
| 10. В. Навіцкі | 30 |
| 11. Н. Орса | 25 |
| 12. В. Ковель | 25 |
| 13. В. Ракуць | 25 |
| 14. М. Ханяўка | 25 |
| 15. К. Муха | 25 |
| 16. М. Кулагін | 25 |
| 17. А. Русак | 20 |
| 18. Н. Жызьнеўскі | 20 |
| 19. А. Чарнэцкая | 10 |
| 20. Стаўпіскі | 10 |
| Усяго | 870 |

Праз сп. Б. Даніловіча:

| | |
|---|---|
| 1. Аддзел БАЗА, Нью-Джэрзы | 50 |
| 2. П. Драздоўскі | 35 |
| 3. В. Станкевіч | 30 |
| 4. С. Гутырчык | 30 |
| 5. І. Шчорс | 30 |
| 6. Я. Ханенка | 20 |
| 7. А. Сільвановіч | 20 |
| 8. У. Сьліўка | 20 |
| 9. У. Курыла | 20 |
| 10. У. Пелеса | 20 |
| 11. Б. Букатка | 15 |
| 12. К. Міркановіч | 15 |
| 13. В. Ярашэвіч | 10 |
| 14. А. К. | 10 |
| 15. Г. Гэльвіг | 10 |
| 16. Г. Харавец | 10 |
| 17. А. Субота | 10 |
| 18. Б. Даніловіч | 10 |
| 19. А. Балкоўскі | 10 |
| 20. В. Дубяга | 10 |
| 21. А. Стагановіч | 10 |
| 22. Я. Сапежынскі | 10 |
| 23. Я. Літвіненка | 10 |
| 24. П. Кажура | 10 |
| 25. Ю. Азарка | 10 |
| 26. Я. Місюль | 10 |
| 27. а. Аляксандар | 10 |
| Усяго | 445 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| К. Акула | ам.дал. 23 |

**БЭЛЬГІЯ**

| | |
|---|---|
| З. Смаршчок | ам.дал. 100 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

| | |
|---|---|
| Ад сп. А. Лашука | ам.дал. 261 |

У тым ліку ахвярадаўцы:

| | |
|---|---|
| 1. М. Шведзюк | анг.ф. 10,00 |
| 2. С. Будке | 2,50 |
| 3. З. Сантон | 2,50 |
| 4. Я. Домінік | 2,50 |
| 5. Я. Мазур | 7,50 |
| 6. А. Лашук | 10,00 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| 1. А. і М. Мароз | аўстр.дал. 10 |
| 2. Э. Дамброўскі | 10 |
| 3. Б. Стыль | 10 |
| 4. М. Раецкі, малодшы | 10 |
| 5. М. Раецкі, старэйшы | 10 |
| 6. К. Ёлаб | 10 |
| 7. Ф. Дарэўскі | 10 |
| 8. А. Ніжнік | 10 |
| 9. К. і А. Чабатар | 10 |
| 10. А. Мароз, малодшы | 10 |
| 11. З касы Аб'едн. Бел. у З. Аўстр. | 180 |
| Усяго | 280 |

Заміж кветак на магілу сьв. пам. Олі Запруднік:

| | |
|---|---|
| 1. Б. Рагуля | ам.дал. 200 |
| 2. І. і Я. Сурвіла | 100 |
| 3. З. і В. Кіпель | 100 |
| 4. А. Орса-Рамана | 50 |
| 5. З. і Р. Станкевіч | 50 |
| 6. М. і К. Верабей | 50 |
| 7. А. Шукелайць | 50 |
| 8. А. Русак | 30 |
| 9. В. Кажан | 30 |
| 10. Сям'я Я. Азаркі | 25 |
| 11. Згурт.Бел. у В. Брытаніі | анг.ф. 50 |
| Усяго | ам.дал. 685 |
| | анг.ф. 50 |

Заміж кветак на магілу сьв. пам. Олі Запруднік

| | |
|---|---|
| Ю. і П. Андрусышыны на дапамогу суродзічам на Беласточчыне | ам.дал. 25 |

# СЬВ. ПАМ. МІХАСЬ КУЛАГА

**(12.X.1922-17.X.1987)**

У Мэльбурне ў Аўстраліі 22 верасьня сёлета ўрачыста пахавалі сьв. пам. Міхася Кулагу, сябру Беларускага Цэнтральнага Камітэту, калішняга жаўнера Беларускай Краёвай Абароны. Памёр ён нечакана на працы 17-га верасьня, месяц перад адыходам на пэнсію, на якую так чакаў.



Паніхіду па нябожчыку адслужыў настаяцель царквы БАПЦ у Яравіле а. А. Кулакоўскі, сказаў зьмястоўную пропаведзь, падкрэсьліваючы сьціплае, але ахвярнае жыцьцё Міхася Кулагі. Па апошнім развітаньні сябры нябожчыка вынесьлі труну зь целам зь нерапоўненай царквы і амаль усе паехалі на могілкі Фокнэр, дзе на беларускай частцы могільніка а. Кулакоўскі выканаў абрад пахаваньня.

Як у царкве, гэтак і на могілках сьпяваў хор пад кіраўніцтвам матушкі Кулакоўскай. Сп. Мікола Скабей, як найбліжэйшы сябра нябожчыка, які жыў у сп. Скабея даўгія гады, пакуль ня купіў сабе собскі дом у Сэйнт-Олбаньсе, сказаў разьвітальнае слова пра нялёгкае жыцьцё сьв. пам. Міхася, якое пачалося ў Давід Гарадку на Палесьсі 12 кастрычніка 1922 году. Прамоўца адзначыў ахвярнасьць памерлага, ягонае разуменьне грамадзкіх патрэбаў.

Труна пайшла наніз, пасылапалася зямля... Няхай-жа будзе лёгкай яму!

Памінкі а. Кулакоўскі пачаў і закончыў малітвай. Атмасфэра была паважная, сяброўская. Сп. Скабей, выконваючы волю пакойнага, сабраў ахвяры, заміж кветак, на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку. Але былі й кветкі: ад каапэратыву Беларускага Дому, да якога належаў нябожчык, ды яшчэ ад колькіх асобаў.

Як выканавец тэстамэнту (ён і сп-ня З. Кадняк), сп. Скабей падзякаваў ахвярадаўцам, айцу й матушцы Кулакоўскім ды ўсім, хто ўзяў удзел у пахаваньні й прыгатаваньні памінак.

Трэба тут адзначыць, што падзяка належыцца й выканаўцам тэстамэнту, з чым яшчэ будзе зьвязана шмат фармальнасьцяў і турботаў.

Выказваем шчырыя спачуваньні сваяком сьв. пам. Міхася Кулагі на Беларусі ды ягоным сябром у Аўстраліі.

Вечная яму памяць!

**М. Н.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва прысланыя ахвяры:

| | |
|---|---|
| К. Калюша | ам.дал. 740 |
| Др. А. Бразоўскі | 50 |
| З. Смаршчок | 100 |

З АЎСТРАЛІІ (заміж кветак на магілу сьв. пам. Міхася Кулагі):

| | |
|---|---|
| М. Скабей | аўстр.дал. 50 |
| Г. і В. Шайпак | 20 |
| С. і Ю. Чэхавы | 30 |
| М. Нікан | 10 |
| В. Карп | 10 |
| Я. Стасевіч | 20 |
| М. Тэрэшкевіч | 10 |
| А. Груша | 30 |
| А. Кукель | 20 |
| М. Шэка | 20 |
| І. Валенціёнак | 10 |
| В. Шчэрба | 10 |
| В. Стажыц | 10 |
| Я. Груша | 10 |
| П. Гуз | 10 |
| У. Сідлярэвіч | 20 |
| З. Кадняк | 10 |
| О. Слесарэвіч | 5 |
| | 310 |

У пераводзе на амэр. дал. 217.56.

# СЬВ. † ПАМ. ОЛЯ ЗАПРУДНІК

**(18.I.1928-30.IX.1987)**

Сьветлай памяці Оля Запруднік (Харытончык) атрымала ў сям'і ды ўзбагаціла ў Гімназіі імя янкі Купалы, у Беларускім саўтынгу і Лювэнскім Унівэрсытэце глыбокае пачуцьцё беларускага патрыятызму, якім кіравалася праз усё сваё жыцьцё. Ад часу прыбыцьця ў 1957 годзе ў Нью-Ёрк Оля Запруднік самаахвярна працавала на грамадзкай ніве, асабліва ў Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні.

З глыбокім сумам паведамляем пра перадчасную сьмерць свае сяброўкі ды выказваем найшчырэйшыя спачуваньні сям'і й сваяком памерлай.

Вечнай Ёй памяць.

**Галоўная ўправа БАЗА**
**Управа Ньюёркскага аддзелу БАЗА**
**Беларускае Жаноцкае Задзіночаньне**
**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**
**Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі**

# СЬВ. † ПАМ. ЛЕАНІД ЛЯЎКОВІЧ

Нарадзіўся 19 верасьня 1920 г. ў Морачы Ленінскага раёну Берасьцейскай вобласьці. Неспадзявана адыйшоў на вечны супачынак 24 верасьня 1987 г. ў Нью-Ёрку. Пахаваны на могільніку Жыровіцкае Божае Маці ў Іст-Брансьвіку, Нью-Джэрзы.

Нябожчык быў сьведамым Беларусам, сябрам беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, а перадусім актыўным у Беларускім Праваслаўным Прыходзе Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд-Гіле ў Нью-Ёрку.

Паведамляюць і выказваюць шчырыя спачуваньні ягонай жонцы Натальлі

Прыхаджане і ўправа прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд-Гіле, Нью-Ёрк.

Памёр Леанід Ляўковіч у шпіталі Сьв. Язэпа ў Куіньсе. Пахавальныя службы адправіў а. Усевалад Шэмеціла: 25-га адслужылі ў пахавальным доме паніхіду (пяялі С. Жамойда ды колькі чалавек з хору нашай царквы); 26-га адбыліся паховіны. Цела нябожчыка было прывезенае ўраньні ў царкву Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Айцец Шэмеціла адслужыў літургію й адпяваньне. Прыгожа пяяў хор пад кіраўніцтвам сп. Жамойды.

Жалобны картэж, прехаўшы па вуліцы, дзе жыў нябожчык, павёз дамавіну ў Іст-Брансьвік на могліцы царквы БАПЦ Жыровіцкае Маці Божае. Там ужо чакалі іншыя людзі ды а. С. Коўш. Пахавальны абрад выканаў а. Усевалад. Па ліціі хор прасьпяваў «Сьпі пад курганам гэрояў». Труна была пакрытая бел-чырвона-белым сьцягам. Была вельмі прыгожая пагода.

Памінальны абед адбыўся ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры. За сталамі было 34 асобы. Прамаўлялі: сп. К. Мерляк, В. Шчэцька, а. Протапр. Сьвятаслаў Коўш і а. Усевалад. **Васіль Шчэцька**

## БЕЛАРУСАВЕДА Ў ЛЁНДАНЕ

Дваццаць другі гадавы курс беларусаведы, якія праводзіць Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане, на 1987/88 акадэмічны год будзе складацца з гэткіх дакладаў: др. Г. Лімінг — «Іван Ужэвіч і ягоная 'Славянская граматыка' 1643-45 гадоў (5.XI); сп. А. Замойскі — «Нацыя ў нацыі: Беларусь у польскім кантэксьце» (3.XII); праф. А. МакМілін — «Сымбалізм у беларускай літаратуры» (9.III); др. Ц. Томас — «Царкоўнаславянскія кнігі, выдрукаваныя ў Беларусі да 1800 году: агляд фондаў Брытанскае Бібліятэкі» (19.V); сп. С. Роўэл — «Полацак Літоўскі: Літоўская праваслаўная Мітраполія ў Беларусі да 1350 году».

Лекцыі будуць прачытаныя ў будынку Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Па дакладнейшыя дэталі трэба зварачацца на адрас Скарынінкі (37 Holden Rd., London, N.12).

# СЬВ. ПАМ. СЬЦЯПАН КІСЕЛЬ



Сьцяпан Кісель нарадзіўся 1.XI.1925 г. ў Баранавічах. Дзіцячыя гады яго былі сумныя й бедныя, бо яшчэ да народжаньня страціў бацьку й жыў толькі з маткай.

Па Другой сусьветнай вайне апынуўся ў Нямеччыне ў гор. Рэгенсбургу, жыў у беларускім лягеры ДП, вучыўся ў беларускай гімназіі, спачатку ў Рэгенсбургу, а пасьля ў лягерох у Міхэльсдорфе, Віндзішбэргэрдорфе, дзе ў травені 1949 г. закончыў сярэднюю асьвету ў гімназіі імя Янкі Купалы.

Зь Нямеччыны прыехаў у Амэрыку ў 1950 г. й пасяліўся ў гор. Кліўленьдзеў штаце Агаё. Тут крыху папрацаваў, а на пачатку 1951 г. быў змабілізаваны ў амэрыканскае войска ды свой час службы адбыў у Нямеччыне. Вярнуўшыся з войска ў Кліўленд, крыху працаваў, а тады, у 1954 г., паступіў на Агаеўскі Штатны Унівэрсытэт, дзе ў жніўні 1958 г. атрымаў ступень бакалаўра ў гандлёва-адміністрацыйнай галіне.

Працаваў на працягу 27 гадоў у штатным бюро працаўладкаваньня ў гор. Калюмбусе, дзе й вучыўся.

Апошнія паўтара гады хварэў на рака, меў адну апэрацыю, месяц прабыў у шпіталі, дзе й адышоў на вечны сыпачынак 23 жніўня 1987 году.

Пакойны Сьцяпан быў добрым Беларусам. Заўсёды жыў пры беларускай калёніі ці грамадзе. Належаў да розны беларускіх арганізацыяў, быў даволі актыўны, цікавіўся беларускім рухам, выпісваў газэту «Беларус», чытаў беларускія кніжкі, кватэру сваю ўпрыгожваў беларускімі паэтамі, эмблемамі, арнамэтамі, трымаў лучнасьць з царквою. Быў самотны, жыў заўсёды сьціпла хоць зарабляў нядрэнна. Характарам нябожчык быў вясёлы, жартаўлівы й разьвясельваў кампанію.

Апошнім яго жаданьнем было быць пахаваным пры беларускай калёніі.

Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе аддала яму належную пашану. Хоць быў працоўны дзень, аднак сабралася шмат сяброў, знаёмых, і з удзелам царкоўнага хору адправілі службу ды пахавалі на магільніку Рывэрсайд у беларускай сэкцыі. Труна была накрытая беларускім сьцягам, а ў канцы адсьпявалі жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў».

Пасьля паховінаў адбыўся памінальны абед у царкоўнай залі, у часе якога сябры дзяліліся ўспамінамі пра пакойнага.

Хай-жа лёгкай будзе Яму амэрыканская зямелька ды хай сьняцца нівы роднае Бацькаўшчыны-Беларусі.

**Сябра**